—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
21
ЛЮТАГА
1992 г.
№ 8 (3626)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)





# ПАМЯЦЬ І НАДЗЕЯ

На курганах «дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі», на курганах спіць наша памяць. А на руінах—спіць наша слава. Слава мінулых часоў. Вясёлых і горкіх. Што помняць руіны? Аблога, прыступ. Агонь, кроў. Мужнасць. Крышыцца камень, у пясок рассыпаецца цэгла, мо заўтра ад нашае славы і руін не застанецца... Зарасце стойкі падмурак травой. І не стане нат знаку, і мо толькі невялічкае курганне ўпакоіць Славу, і засне яна памяццю. Цяжкім сном, дзе конскі тупат, бразганне зброі, лёгкія постаці вершнікаў, кастрышчы хатаў адаб'юцца тумановым прывідам у мроі якога-небудзь зусім юнага паэта. Адаб'юцца, трывожачы натхненне, лягуць рыфмаванымі радкамі, патрапяць у друк. А цяжкі сон будзе доўжыцца вечнасць. Крышыцца камень, у пясок рассыпаецца цэгла на руінах нашае славы.

Мы багатыя. Нам не шкада. Што слава? — Песня. Песня, ды й толькі. Хай крышыцца камень, хай зарастае стойкі падмурак. Сон нашае памяці, сон нашае славы — наш сон. Гэта мы снім. Снім і снім сябе ў бясконцых чэргах. Нам шчодра дадзены купоны на бясслоўе, на бяспамяцтва. Крышыцца камень. І пусцее душа...

Сумна. Скруха б'е рэшткі душы, агортвае слых, зрок, памяць. Крышыцца камень, у пясок рассыпаецца цэгла, зарастае горкай травою падмурак. Доўжыцца наш сон. Хто ж прачнецца?

Мо гэтыя «ваяры», што прыйшлі на муры, каб праверыць снежкай вернасць рукі і трапнасць вока?

Курганы захоўваюць памяць, руіны — славу, і нехта, я спадзяюся, захоўвае надзею.

Сяргей ВЕРАЦІЛА.

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЛГОФА

Леанід ЛЫЧ

(Заканчэнне. Пачатак у мінулым нумары).

## 3. Абцятая суверэннасць

Кастрычніцкая рэвалюцыя па сутнасці на доўгі час пакінула беларускі народ ля разбітага карыта. Беларусам заставалася толькі з зайздрасцю назіраць, як дзяржаўна ўладжваюцца суседнія з ім польскі і ўкраінскі народы, з якімі гэтулькі гадоў было аддадзена сумеснай барацьбе для вызвалення з-пад ярма Расійскага самаўладдзя. Калі СНК РСФСР ужо 4 снежня 1917 года прыняў Маніфест да ўкраінскага народа, у якім прызнавалася яго права на самавызначэнне, а ў жніўні 1918 года Савецкі ўрад скасаваў усе дагаворы і акты Расійскай імперыі аб падзеле Рэчы Паспалітай і гэтым самым адкрыў шлях для стварэння незалежнай польскай дзяржавы, на Беларусі такія думкі лічыліся крамольнымі, заносіліся ў разрад нацыяналістычных. Трапіў сюды і Першы Усебеларускі Дэмакратычны Кангрэс, які праходзіў з 5 па 17 снежня 1917 года ў Мінску. У яго працы ўдзельнічалі 1872 дэлегаты. Бальшавікі вельмі пільна сачылі за ўсім, што тут адбывалася. Пакуль справа датычыла не так важных на іх погляд пытанняў, праца Кангрэса ішла бесперашкодна. Але як толькі ў ноч з 17 на 18 снежня ён урачыста, пад гром апладысментаў прысутных у зале абвясціў Беларусь незалежнай рэспублікай, выбраў Раду, у памяшканне ўварваліся бальшавікі і з дапамогай зброі разагналі ўдзельнікаў гэтага гістарычнага форуму.

Пра законнае права беларусаў мець сваю ўласную суверэнную дзяржаву на поўны голас не баяліся гаварыць толькі на тэрыторыі, дзе фактычная ўлада належала акупацыйным кайзераўскім войскам. У дадзеным выпадку адмоўная для кожнага народа з'ява акупацыя для беларусаў, наадварот, мела пазітыўнае значэнне, бо давала магчымасць выхаду на народ з ідэяй нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту. І пра гэта трэба было гаварыць як мага гучней, бо пасля Кастрычніка на беларускіх землях, дзе ўсталявалася Савецкая ўлада, практычна ні кроку не рабілася ў плане нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. Наадварот, яны яшчэ цясней уцягваліся ў дзяржаўнае жыццё Расійскай Федэрацыі на правах яе звычайных адміністрацыйных адзінак. Пэўны час пасля Кастрычніка захоўвалася ў якасці такой адзінкі створаная ў маі 1917 года на з'ездзе Саветаў Мінскай, Віленскай і Магілёўскай губерняў Заходняя вобласць з цэнтрам у Мінску. З прасоўваннем у лютым 1918 года немцаў на ўсход яна ўжо складалася толькі з неакупаванай тэрыторыі Віцебскай і Магілёўскай губерняў. Каб захаваць Заходнюю вобласць у якасці самастойнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, у яе ўключаюць Смаленскую губерню. У верасні 1918 года Заходнюю вобласць перайменавалі ў Заходнюю камуну, хаця можна было б у яе назву ўключыць слова «Беларуская», улічваючы этнічны склад насельніцтва гэтага адміністрацыйнага ўтварэння, ролю Смаленшчыны ў фармаванні беларускай народнасці. Аднак, як бачым, і для новай, Савецкай Расіі, куды бліжэй быў дарэвалюцыйны адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел краіны, у склад якой Беларусь уваходзіла пад афіцыйнай назвай Паўночна-Заходні край.

Не трэба быць спрактыкаваным дыпламатам, добра начытаным чалавекам у гэтай сферы палітычнай дзейнасці, каб бачыць вялікую дыпламатычную прамашку Савецкага ўрада ў нежаданні даць Беларусі права на нацыянальна-дзяржаўную незалежнасць у яе этнічных межах. Пры юрыдычным афармленні такога акта кайзераўская Германія ў адпаведнасці з міжнароднай практыкай вымушана была б лічыцца з правамі новай суверэннай дзяржавы і пакінуць яе землі. Не мелі б аніякіх падстаў прэтэндаваць на іх і палякі, якія так актыўна займаліся фармаваннем тэрыторыі сваёй будучай дзяржавы, не саромеючыся бачыць яго ўсходнія межы ледзь не каля самога Смаленска. У такіх умовах безгаспадарная, нічыйная беларуская зямля не магла не стаць прадметам бессаромнай куплі і продажу, якімі займаліся спачатку Савецкая Расія і кайзераўская Германія, а пазней пацягнуліся да гэтага і рукі пілсудчыкаў. Першы кірмаш па распродажы нашай Бацькаўшчыны ўчынілі ў адсутнасць яе прадстаўнікоў у час падпісання ў сакавіку 1918 года Брэсцкага міру. Заўважу, што, акрамя, пасланцоў з Савецкай Расіі і Савецкай Украіны, Германіі, у перамовах удзельнічалі таксама прадстаўнікі Аўстра-Венгрыі, Балгарыі і Турцыі. Адпаведна з падпісаным мірам савецкі бок уступіў Германіі значную тэрыторыю Беларусі.

**Такім чынам, усходнія яе губерні належалі Савецкай Расіі, заходнія—заставаліся пад акупацыяй кайзераўскіх войскаў. Здавалася, у такіх умовах ніхто з беларусаў не адважыцца ўзняць пытанне аб утварэнні самастойнай дзяржавы. Але ў народзе не перавяліся сілы, якія дзеля дасягнення такой велічнай мэты гатовыя былі ісці нават на ахвяраванне сабой. Памятаючы пра няўдалую спробу дзяржаўна афарміцца ў снежні 1917 года, вырашана было другім разам узняць гэтае пытанне ўжо не на той тэрыторыі Беларусі, дзе ўсталявалася Савецкая ўлада, а там, дзе панавалі германскія акупанты. Апошнія аказаліся больш літасцівымі, чым бальшавікі. 25 сакавіка 1918 года ў акупаваным Мінску было абвешчана аб стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).**

Гэтым гістарычным актам наносіўся вельмі моцны ўдар па той нацыянальнай палітыцы, якую праводзіла ў нашым краі Савецкая ўлада. Абвешчанае ёю для народаў былой імперскай Расіі права на нацыянальнае самавызначэнне заставалася пустым гукам у дачыненні да Беларусі. Цяпер жа ёй нарэшце ўдалося здзейсніць даўнюю мару: стварыць сваю дзяржаву, няхай сабе і ў многім залежную ад Германіі. Ажыццявілася, хоць і на вельмі кароткі час, і на далёка не ўсёй заселенай беларусамі тэрыторыі, тое, чаму столькі сілы і энергіі было аддадзена лепшымі сынамі і дочкамі Бацькаўшчыны. Рада і Народны Сакратарыят БНР адразу ж заявілі аб аддзяленні ад Расіі, непрызнанні Савецкай улады, адмене дэкрэтаў СНК Заходняй вобласці і фронту.

Ліквідацыя ў лістападзе 1918 года германскага акупацыйнага рэжыму на тэрыторыі Беларусі і прыход сюды войск Чырвонай Арміі зрабілі немагчымым далейшае існаванне Беларускай Народнай Рэспублікі, але насенне, кінутае ёю ў добра падрыхтаваную за дзесяцігоддзі нястомнай працы глебу, дало здаровыя ўсходы. Ужо не існавала той сілы, якая магла б прымусіць беларусаў згадзіцца і надалей заставацца недзяржаўнай нацыяй. Як ні супраціўляліся гэтаму дзяржаўныя і партыйныя дзеячы, што ўслед за Чырвонай Арміяй прыбылі ў наш край, каб усталёўваць тут Савецкую ўладу, усё ж паводле прамога распараджэння Цэнтра яны згадзіліся на абвяшчэнне 1 студзеня 1919 года Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Толькі вось сяму-таму падалося, што занадта шмат тэрыторыі ўключылі ў яе склад: Віцебскую, Гродзенскую, Мінскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні, а таксама шэраг паветаў суседніх губерняў, дзе пераважала беларускае насельніцтва. Доўга не давялося перажываць «ад такога несправядлівага рашэння» прыхільнікам вялікай і непадзельнай Расіі. Спасляліся на пагрозу інтэрвенцыі ў Беларусь войск буржуазна - памешчыцкай Польшчы і ў «законным парадку», праз рашэнні І Усебеларускага з'езда Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў перадалі ў лютым 1919 года Расійскай Федэрацыі Віцебскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні, не падумаўшы, што гэтым самым яны і палякам давалі добры прыклад браць тое, што «блага ляжыць». І тыя сапраўды не марудзілі. Ужо да сярэдзіны сакавіка ў іх руках апынуліся Брэст, Ваўкавыск, Слонім, Скідзель, Шчучын, Пінск, Баранавічы. Не дапамагла і створаная па ініцыятыве У. Леніна 27 лютага 1919 года эфемерная Літоўска-Беларуская Савецкая Рэспубліка (Літбел). Калі ўзяць пад увагу нацыянальны склад яе Савета Народных Камісараў і Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта, дык у ім беларусаў і днём трэба было б шукаць з агнём. Балазе, не забыліся хоць на Дзяржаўным гербе (ва ўсім быў падобным на Дзяржаўны герб РСФСР) напісаць назву дзяржавы і на беларускай мове. У гэтых мэтах ужываліся таксама літоўская, руская, польская і яўрэйская мовы.

Стварэнне Літбела, дзейнасць яго органаў улады амаль зусім не паўплывалі на нацыянальна-дзяржаўную самасвядомасць беларусаў, не далі ім адчуць сябе гаспадарамі ўласнага лёсу. Гісторыя адвяла гэтаму дзяржаўнаму ўтварэнню вельмі сціслы тэрмін: сталіцу Літбела Вільню палякі занялі 21 красавіка, Мінск — 8 жніўня. І цяпер ужо беларускі народ пазбавіўся нават такога сумніцельнага статуса дзяржаўнасці, які яму «даравалі» ЦК РКП(б).

Амаль цэлы год на землях былой БССР паўнаўладна гаспадарылі польскія легіёны Пілсудскага. Наш зямляк, а паводле да канца не ўстаноўленых звестак яшчэ і беларус па паходжанні, сумленна выконваючы волю польскіх нацыяналістаў, нават і пальцам не паварушыў для абвяшчэння Беларусі суверэннай дзяржавай. А такое ж, пры жаданні, зрабіць было вельмі лёгка, бо ў эміграцыі ў Польшчы знаходзіўся ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі, заўсёды гатовы прыйсці да выканання сваіх прамых абавязкаў. Такога не адбылося па прычыне, што для польскіх нацыяналістаў, як і ва ўсе папярэднія перыяды, не існавала ні беларусаў, ні іх этнічнай тэрыторыі.

Другое нараджэнне ў нашым краі дзяржавы пад назвай Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка адбылося 31 жніўня 1920 года. Праўда, адзін час у яе на кароткі тэрмін з'явіўся канкурэнт. Пастараліся аб гэтым удзельнікі слуцкага паўстання, якое цягнулася з 14 лістапада да 28 снежня 1920 года. У час чарговай акупацыі Слуцкага павета польскімі легіянерамі тут узнікла паўстанне супроць Савецкай улады, і яго ўдзельнікі 14—15 лістапада правялі Першы беларускі з'езд Случчыны (прысутнічалі 117 дэлегатаў), на якім было абвешчана аб стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі, абрана Беларуская рада Случчыны. З прыходам у Слуцкі павет Чырвонай Арміі БНР спыніла сваё кароткатэрміновае існаванне, але і яна пакінула пэўны след у нацыянальна-дзяржаўнай самасвядомасці беларускага народа.

Пад час другога нараджэння БССР яна значна ўступала сваёй папярэдніцы і па тэрыторыі, і па колькасці насельніцтва. «Заслуга» ў гэтым нашага суседняга народа палякаў. Без усялякіх пярэчанняў, калі не сказаць пры поўнай маўклівай згодзе Савецкай Расіі, яны адхапілі сабе столькі беларускай зямлі, што ў значнай ступені ўсцешылі нават самых адпетых прыхільнікаў вялікай Польшчы. Дый як тут было не ўсцешыцца, калі яе новая мяжа з Беларуссю цяпер адсунулася далёка на ўсход у параўнанні з той, што ўстанавіў у 1919 годзе Вярхоўны Савет Антанты: Гродна — Ялаўка — Няміраў —Брэст—Літоўск (т. з. «лінія Керзана). У Беларусі не было ўласных сіл для супроцьстаяння такой несправядлівай тэрытарыяльнай абдзіралаўцы. Нас ніхто не падтрымаў у тую цяжкую часіну. І каб хутчэй спыніць бойку, усялякія там спрэчкі, 18 сакавіка 1921 года, пасля пяцімесячных перагавораў у Рызе, куды не дапусцілі прадстаўнікоў ад Беларусі, быў падпісаны дагавор, якім польскаму грабяжу беларускіх земляў надалі законную сілу. За Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай пакідалася тэрыторыя толькі колішняй Мінскай губерні, на якой належала беларусам сцвердзіцца як дзяржаўнай нацыі. Вось такім, дзякуючы «клопатам» суседзяў, стаў для беларусаў базавы прынцып прынятай 2 лістапада 1917 года Дэкларацыі правоў народаў Расіі «Права народаў Расіі на вольнае самавызначэнне, аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы». У беларусаў, як ні ў кога іншага, яна атрымалася вельмі куртатай. Незадаволенасць народа палітыкай Цэнтра ў даным пытанні была велізарнай. Але з воляй людзей ён і не думаў лічыцца. Усялякія спробы абараніць тэрытарыяльныя інтарэсы беларусаў прызнаваліся за праявы нацыяналізму, за небяспечную контррэвалюцыйную дзейнасць і сурова караліся.

**Пасля такой тэрытарыяльнай «абрэзкі» Беларусь ні ў эканамічным, ні ў культурным, ні ў этнічным ці якім-небудзь іншым планах не ўяўляла сабой цэласнага арганізму. Практычна чужой воляй ёй, як самастойнай дзяржаве, была падрыхтавана немінучая пагібель. Ёсць падставы меркаваць, што ўсё гэта было задумана, каб урад Беларускай дзяржавы па ўласнай ініцыятыве абвясціў аб сваім поўным банкруцтве і выказаў жаданне добраахвотна далучыцца ў якасці звычайнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі да Расійскай Федэрацыі, тым больш што ў яе складзе ўжо знаходзіліся беларускія губерні. Не, такога кроку ні ўрад, ні сам народ БССР не пажадалі зрабіць. Не дазваляла глыбокае ўсведамленне важнасці ролі дзяржавы ў лёсе этнаса, таму згаджаліся будаваць яе і на абцятай з усіх бакоў тэрыторыі, не зважаючы на ўсю цяжкасць, неспрыяльнасць унутраных і знешніх варункаў. У друку, прычым нават у навуковай літаратуры, у афіцыйных і прыватных размовах паміж сабой гэтую самую маленькую з усіх саюзных рэспублік СССР не без гонару называлі краінай, г. зн. словам, якога мы цяпер не асмельваемся ўжываць у дачыненні да незалежнай Рэспублікі Беларусь. І тых людзей няцяжка зразумець: пасля стольких гадоў залежнага ад Польшчы і Расійскай імперыі жыцця і маленькая, але ўласная дзяржава, шчырым, сумленным беларусам здавалася Божым раем на зямлі.**

**А як самаааддана, з якой вялікай ахвотай працавалі ў полі, на заводах і фабрыках беларусы, адчуўшы сябе гаспадарамі ўласнага лёсу! Хаця ад замежнай інтэрвенцыі Беларусь вызвалілася намнога пазней, чым большасць раёнаў Савецкай Расіі, зведвала ў сувязі з абрэзкай тэрыторыі сур'ёзныя цяжкасці ва ўстанаўленні ўнутры — і міжрэспубліканскіх эканамічных сувязяў, аднаўленне яе народнай гаспадаркі ажыццяўлялася больш шпаркімі тэмпамі, чым у сярэднім па Саюзе.**

Радасць ад атрыманай магчымасці на незалежнае дзяржаўнае развіццё ахапіла сэрцы і душы не толькі беларусаў самой нашай рэспублікі, але і тых, хто апынуўся па-за яе межамі. Назіраўся няспынны прыезд на Бацькаўшчыну яе сыноў і дочак, якім хацелася жыць і працаваць на карысць сваёй дзяржавы. Прычым ехалі нават і тыя, хто паспеў асесці ў замежных краінах.

Імкнучыся будаваць сваё дзяржаўнае жыццё паводле нацыянальных традыцый і ўжо маючы пэўныя зрухі на гэтым гістарычным шляху, людзьмі ўсё больш і больш разумеўся велізарны трагізм, што да такой высакароднай мэты трэба ісці толькі нязначнай частцы беларускага этнаса. Спробы ўключыць у гэты гістарычнай важнасці працэс беларусаў Віцебшчыны, Гомельшчыны і Магілёўшчыны канчаліся няўдачай: урад Расійскай Федэрацыі моцна трымаўся за гэтыя землі, праводзячы тут у прынцыпе такую ж самую нацыянальную палітыку, як і ў карэнных рускіх губернях. Выратаваць значную колькасць беларусаў заходніх губерняў РСФСР ад культурнамоўнай асіміляцыі ўдалося толькі ў сакавіку 1924 года, г. зн. па смерці У. І. Леніна. Таму гісторыкі такую важную для нацыянальна-дзяржаўнага развіцця беларускай нацыі падзею доўгі час з пэўнай падставай звязвалі з іменем І. В. Сталіна.

У выніку першага ўзбуйнення Беларусі яе тэрыторыя вырасла з 52 да 110 тысяч кв. км, а колькасць насельніцтва павялічылася з 1,5 да 4,2 мільёна чалавек. Цяпер ужо наша Бацькаўшчына была падобная на сапраўдную дзяржаву, хаця яе межы далёка не адпавядалі этнічнай тэрыторыі рассялення і тагачаснага кампактнага пражывання беларусаў. Узбуйненне Беларусі разам з ажыццёўленымі захадамі па эканамічным, сацыяльна-палітычным і нацыянальна-культурным развіцці самым пазітыўным чынам адбілася на настроі ўсіх беларусаў. Узніклі рэальныя магчымасці нарэшце вызваліцца з-пад дамоклава мяча асіміляцыі і настроіцца на планамерную нацыянальную кансалідацыю, што знайшло сваё ўвасабленне ў дзяржаўнай палітыцы беларусізацыі. У нацыянальна-дзяржаўным адраджэнні адбывалася такое, чаго не маглі ігнараваць нават многія кіраўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі, працягваючы сваю дзейнасць у эміграцыі. Яны зразумелі, што ва ўмовах БССР беларусы жывуць і працуюць як сапраўдная дзяржаўная нацыя, і таму хоць у чымсьці перашкаджаць ёй у гэтым азначала б здраду ўласнаму народу. У 1925 годзе БНР абвясціла аб самароспуску. Некаторыя яе дзеячы са згоды ўрада БССР вярнуліся ў родны край і сваёй нястомнай, добрасумленнай працай шмат карыснага зрабілі для яго развіцця.

Характэрная таму часу ступень незалежнасці ад Цэнтра пры вырашэнні любых пытанняў эканамічнага, палітычнага і сацыяльна-культурнага жыцця спрыяла росту сярод кіраўнікоў рэспублікі сапраўдных дзяржаўных дзеячаў. Менавіта такая немалаважная сацыяльная катэгорыя ў складзе кожнай суверэннай нацыі доўгі час адсутнічала ў беларусаў, прычыну чаго трэба шукаць у самім характары палітыкі Расійскага самадзяржаўя ў іх краі, якое з зайздроснай упартасцю няўхільна прытрымлівалася тут прынцыпу камплектаваць губернскія, гарадскія і павятовыя органы ўлады толькі выхадцамі з цэнтральных губерняў краіны. За першыя дзесяць гадоў незалежнасці Беларусі з асяроддзя яе карэннага насельніцтва ў сферу кіравання дзяржаўнымі справамі прыйшла не адна сотня таленавітых людзей, якія сваімі бездакорнымі адносінамі да выканання службовых абавязкаў, дасканалым веданнем спецыфікі роднага краю ўнеслі важкі ўклад у яго сацыяльна-эканамічнае і духоўнае жыццё. Асабліва высокім узроўнем прафесіяналізму дзяржаўнага дзеяча вызначаліся палітыкі рэспубліканскага рангу, сярод якіх у першую чаргу можна назваць старшыню ЦВК БССР Аляксандра Чарвякова (1924—1937 гг.), старшыню СНК БССР Язэпа Адамовіча (1924—1927 гг.) і яго спадкаемца Мікалая Галадзеда (1927—1937 гг.). Затое такімі выдатнымі постацямі з ліку беларусаў не мог пахваліцца партыйны апарат рэспубліканскага

(Працяг на стар. 12).

# ЛЮБОЎНЫЯ ПРЫГОДЫ Ў СУЧАСНЫМ ДУХУ

*Я на каханне і любоў*
*Не падзяляў адной любові,*
*Што набалела, зноў і зноў*
*Я на адной выказваў мове.*

Міхась СТРАЛЬЦОЎ.

Хто з чытачоў пройдзе міма кнігі з назвай «Праклятая любоў»? Калі нават яна напісана «нярыначнаю» беларускай мовай.

Кніга сапраўды нядоўга стаяла на паліцах кнігарань. Хаця аўтар яе, празаік Алесь Жук, наўрад ці дбаў знарок пра попыт. Аднак пра тое, каб напісанае ім чыталася, заўжды клапаціўся. Уменне цікава, займальна апавядаць, каб у чытача, слухача ажно дых захоплівала, — гэта ў нас вядзецца ад Яна Баршчэўскага і да Яна Скрыгана. А можа, і ад той казкі, дзе пан, аматар паслухаць розныя показкі і гісторыі, абяцаў найбольшаму выдумшчыку цэлую талерку золата. Нашым пісьменнікам такі ганарар і не сніўся!

Чытач не падмануўся ў сваіх спадзяваннях: пра любоў, у значэнні — каханне, у кнізе А. Жука апавядаецца ў кожным творы. Любячы, кахаючы чалавек становіцца Чалавекам. Без любові ён не здольны спасцігнуць глыбіні ўласнага быцця, зразумець іншага, як самога сябе. Літаратура, здаецца, адлюстравала ўсе магчымыя формы і вымярэнні гэтага пачуцця, аднак апошнія дзесяцігоддзі даюць мноства прыкладаў таго, што яно займае ў нашым жыцці іншае месца, чым у папярэднікаў.

Анюта, якая, у адрозненне ад сваіх бацькоў, што ведалі адно працу і працу, жыве пачуццямі («бунтуецца, не дае спакою кроў»), захапляецца легкадумным брыгадзірам шабашнікаў Віктарам. Але тое, што ёй здаецца каханнем, яе сябра ўспрымае як ардынарны флірт (апавяданне «Летнія прыгоды ў сучасным духу»).

Безыменны герой апавядання «Самагубца», будучы жанатым, шмат год патаемна сустракаецца з Таняй, якую, здаецца, кахае. Але адолець руціну сямейнага жыцця («яны амаль тры дзесяткі год праспалі, адвярнуўшыся адно ад аднаго») не можа — прывык смачна есці і спакойна спаць, лёгка жыць.

Шалапутны Валерык не начуе дома, «гудзе» з кампаніяй, а потым сварыцца і мірыцца з адыходлівай жонкай. Чым усё ўрэшце скончыцца, ён не задумваецца. Можа, дарожнай аварыяй са смяротным вынікам, як у яго аднагодка Вовіка. А можа, ціхім п'янствам употай, як у яго бацькі (апавяданне «Абочыны»)...

Такіх жыцейскіх гісторый А. Жук ведае шмат. Кожная з іх самадастатковая, каб шукаць наўмысна нейкі асаблівы сэнс. І тады, калі аўтар свядома абмяжоўвае сваю мастацкую задачу немудрагелістым апавяданнем пра вядомае яму, ён дасягае асаблівай празрыстасці і шматзначнасці. У сукупнасці ж усіх, змешчаных у зборніку, апавяданняў і аповесці «Праклятая любоў», узнікае, хоць і фрагментарная, але выразная карціна таго, што дзеецца на свеце. Век таталітарызму, яго росквіту і краху, сваёю цяжкаю ступою раструшчыў многае з таго, што з цяжкасцю набылі людзі за некалькі тысяч год уласна гісторыі. Ён увойдзе ў чалавечую памяць як эпоха небывалай жорсткасці, калі абыякавасць да бліжняга, апатыя, зайздрасць, рэфлекс, вядомы пад найменнем «хапай, што дрэнна ляжыць», выцеснілі на абочыну здольнасць чалавека любіць другога, як самога сябе. Самы востры з усіх сённяшніх дэфіцытаў — гэта дэфіцыт любові, сфера якой відавочна звузілася і збяднілася. Чытач твораў А. Жука гэта выразна адчувае.

Увагу аўтара прываблівоюць у першую чаргу складаныя жыццёвыя выпадкі, калі чалавек аступіўся, збіўся з торнай сцежкі, страціў пачуццё шляху. Яго аўтарскія адносіны да такіх людзей адзначаны гуманнымі пачуццямі. У кожным ён бачыць свайго брата па зямной юдолі. Адсюль гэтыя памяншальныя імёны: Віцічак, Каценька-Кацюша... Так глядзіць сама вёска на сваіх дзяцей: якія яны ні ёсць, аднак жа свае. Са стратай кожнага бяднее сам свет людства. Аўтар любіць сваіх герояў-няўдачнікаў, недалэнгаў, апушчэнцаў, шкадуе іх, бо ведае: тое, што яны так занядбалі ў сабе сваё чалавецтва (помніце ў Янкі Купалы!), не іх віна. Але ж і яны таксама дазволілі над сабою здзекавацца. І тут ужо дарэчы аўтарская іронія, а часам і сарказм. Так глядзеў у свой час на сваіх «трапетуноў» Кузьма Чорны. Вось яна, класічная, чорнаўская інтанацыя: «Першы даў форсу Віцічак: невялічкі, шчуплы мужчына ў дыяганалевым салдацкім фрэнчы, галіфэ і ботах. Твар у яго заўсёды зарослы рэдзенькай рыжаватай шчэццю. Нават на святы, калі галіўся, усё роўна здавалася, што маленькі твар яго «зарослы» (апавяданне «Пагарэльцы»). Зразумела, што ўсё ў гэтага чалавека неўпапад: яго стараннне, цярпенне, трапятлівасць. Здаецца, найлепш было б, каб ён бяздзейнічаў. Тады, можа, нічога не здарылася б. Але ж гэта наш век такі: усё навыварат! Дабро, паводле нейкай неспасцігальнай логікі, ператвараецца з непазбежнасцю ў зло, любоў — у нянавісць...

**Праўда, празаік у сваім імкненні давесці ўсё да лагічнага, лепш сказаць — алагічнага, канца часам не давярае свайму мастакоўскаму чуццю. Мала таго, што маладыя і легкадумныя героі апавядання «Летнія прыгоды ў сучасным духу», па сутнасці, самавыкрыліся. У давагак дадаецца эпілог, дзе ўжо апавядаецца пра традыцыйнага ў нашай вясковай прозе дзеда Ляксея, з яго асаблівым, сялянскім разуменнем жыцця, з яго балючай памяццю аб мінулай вайне... Легкадумны і зусім бяздумны шабашнік Віктар нават не заўважыў, як, вяртаючыся з любоўнага спаткання на матацыкле, насмерць перапалохаў старога, якому спрасоння здалося, што гэта асляпіла яго святло фары нямецкае машыны. Паралель сама за сябе гаворыць, але ж занадта яна эфектна-кінематаграфічная. Што мала ўласціва таленту А. Жука, з яго асаблівай чуласцю і даверам да народнага, заўжды вельмі каларытнага слова.**

Здаецца, што празаік, перапоўнены жыццёвымі ўражаннямі, напружана шукае адэкватную форму выкладання. Найбольш натуральнаю ў кнізе выглядае «Я-форма», тая, класічныя ўзоры якой знаходзім у ранняга Чорнага, у лірычнай прозе Я. Брыля, М. Стральцова. Гэта апавяданні «Каценька-Кацюша», «Вецер». Або апавяданні, лірычны герой якіх блізкі аўтару і аўтабіяграфічна, і духоўна: «Еду я і плачу...», «Каліна ў жыце», «Бярозы над зямлёй»... Чыста эпічная проза, якой чужы лірычны сюжэт з галоўным героем у цэнтры, што яднае ўсё ў цэласны мастацкі свет, не заўсёды даецца А. Жуку. Вопытны аўтар, ён ратуе матэрыял пры дапамозе некаторых піратэхнічных эфектаў, якія, вядома, уражваюць, але, на жаль, вядуць не на глыбіню. Хранікальнасць, гэтак уласцівая нашай сацрэалістычнай прозе, ён свядома адмаўляе, памятаючы, мабыць, стральцоўскае — іранічнае: «А што калі трынаццаць серый зліюцца ў шэрую — адну...» Драматычны ж канфлікт, у якім сышліся б многія жыццёвыя плыні і памкненні жывых удзельнікаў гістарычнае трагікамедыі, звычайна не ляжыць навідавоку. Яго трэба здабыць напружанаю працаю розуму і таленту. Тады ў А. Жука нараджаюцца аповесці.

Аповесць «Праклятая любоў», якая дала назву кнізе, будуецца на калізіі, што стала, па сутнасці, галоўнаю ў нашым стагоддзі. Гэта калізія паміж людзьмі, якія з'яўляюцца соллю жыцця, на якіх трымаецца свет, — такіх, як вечны працаўнік і ваяр за нармальнае чалавечае жыццё, дзе мелі б належнае месца і любоў да роднай зямлі, і каханне да жанчыны, камбайнер Кулеш, і людзьмі, пра якіх звычайна кажуць: «Як такога зямля носіць!» Сімвалам таталітарнай сістэмы з яе нявер'ем у чалавека, падсочваннем, даносчыцтвам, здрадлівасцю і подласцю, своеасаблівай мішэнню, у якую ляцяць і ляцяць стрэлы аўтарскага гневу і пагарды, у аповесці з'яўляецца тыповы люмпен-гарлапан з прозвішчам Кіршчэня. Зорны час яго мінуў, але тым не менш ён яшчэ здольны псаваць людзям нервы. Ён і Кулешу не дае жыць і спакойна працаваць. Больш таго, умешваецца ў яго асабістае жыццё і спаганьвае святое пачуццё кахання да жанчыны, якое толькі-толькі нараджалася ў яго сэрцы. Кіршчэня сам памірае нялюдскаю смерцю, пішучы штоначы данос адразу на ўсіх, але ж і сумленным людзям важданіна з ім не мінулася дарма. Жыццё, папраўдзе, ужо развязала, развязвае гэты востры канфлікт нашае эпохі. Але пераламленне яго ў канкрэтным лёсе людзей усё роўна ўражвае і, думаецца, не хутка перастане цікавіць сучасніка.

Хрыстос і Юда, Авель і Каін, дабро і зло, любоў і нянавісць — ад гэтых спрадвечных антыномій жыцця мы не пазбавімся. Але мы павінны зрабіць свой выбар. А пакуль што зрабіць усё для таго, каб адрозніць Антыхрыста, які прыходзіць у свет у абліччы самога Ісуса, зло, якое прыкідваецца дабром, нянавісць, якая называе сябе любоўю. Каб не паверыць у лозунгі, якія Дж. Аруэл выставіў яшчэ калі на ўсеагульны агляд: «Свабода — гэта рабства», «Любоў — гэта нянавісць», «Наведанне — сіла». Для беларусаў жа, як даводзіць аповесць А. Жука, самым негатыўным вынікам 70-гадовага панавання таталітарызму было вось што. Любоў да роднай зямлі, да сумленнай працы на ёй у рэшце рэшт была, як і ўсё ў нашым грамадстве, дэфармавана, ператварылася ў абыякавасць, ленасць душы. Калі нават чарнобыльская катастрофа не ўзрушыла народ на ўчынак, роўны ягонаму подзвігу ў гады Айчыннай вайны... Маўклівае супраціўленне гвалту такіх адзіночак-праведнікаў, як той жа Кулеш (а мы можам прыгадаць і іншых: няма вёскі без такіх, як яны!), уратавала, ратуе нацыю ад канчатковага самазабыцця. Яны глядзяць на сваю зямлю вачыма любові, а таму так шмат бачаць.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

А. Жук. Праклятая любоў. Аповесць, апавяданні. Мн., «Мастацкая літаратура», 1991.

# Салаўі Рыгора Мурашкі...

## Да 90-годдзя з дня нараджэння пісьменніка

Навука ўстанавіла, што нярэдка ў салаўёў у час спеваў разрываецца сэрца... Спявалі салаўі і ў вірлівы час Вялікай Айчыннай. Іх напеў быў мацнейшы за свіст варожых куль. І таксама, мусіць, у некаторых салаўёў-салістаў разрывалася сэрца.

Перастала біцца ў красавіку 1944 года і сэрца таленавітага сына беларускай зямлі Рыгора Мурашкі...

Нам, нашчадкам, засталіся «спяваць» яго кнігі «Стрэл начны ў лесе», «Прыгранічны манастыр», «Званкі», «Рузікі», «Мюдаўская ноч», «У іхнім доме», «Сын», «Салаўі святога Палікара».

Нарадзіўся будучы пісьменнік 16 лютага 1902 года ў вёсцы Бязверхавічы цяперашняга Слуцкага раёна. Вучыўся ў народнай школе, пасля скончыў валасную двухкласную школу. Два гады, бо пачалася польская інтэрвенцыя, правучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Служыў у Чырвонай Арміі, узначальваў аддзел мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі. У час Вялікай Айчыннай Р. Мурашка змагаўся з акупантамі ў партызанскім атрадзе на Лагойшчыне.

...Чытаю, перачытваю раман «Салаўі святога Палікара», напісаны ў 1933—1939 гадах. Гэты твор Р. Мурашкі першы раз быў надрукаваны ў 1940 годзе ў часопісе «Полымя рэвалюцыі». Чытаю і адразу акунаюся ў жыццё беларускай вёскі пасля калектывізацыі.

Сёння мы па-рознаму можам успрымаць гэтыя падзеі. Нярэдка бытуе думка, што пісьменнікі няправільна асэнсоўвалі гісторыю бацькаўшчыны. Але пры гэтым забываецца, што немагчымы строга каляндарны падыход да літаратуры. Тое, што было прымальным у грамадстве, літаратуры, крытыцы, напрыклад, у 30-я гады, магло страціць актуальнасць, гістарычную істотнасць у канцы XX стагоддзя. А мастацкія

# Каб не заснуць навечна...

З Беластока прыйшоў у «ЛіМ» прыемны дарунак — зборнік успамінаў Георгія Валкавыцкага «Віры», што стаў пятай кніжкай у Бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», якая выходзіць пад рэдакцыяй Яна Чыквіна. Кніжка мае падзагаловак: «Нататкі рэдактара». Тыя з нас, што даўно ведаюць беластоцкую «Ніву», адразу здагадаюцца: гэта той самы спадар Валкавыцкі, які стаяў ля вытокаў газеты і больш чым трыццаць гадоў рэдагаваў яе.

Г. Валкавыцкі піша па сутнасці гісторыю «Нівы». Асобныя рэаліі ўласнага лёсу — толькі дапаўненне да таго галоўнага, чаму прысвяціў сябе, што стала і прызваннем, і грамадскім абавязкам як перад беларусамі, што жывуць на Беласточчыне, так і перад усёй Беларуссю.

У падобным сцвярджэнні няма перабольшання. Прыгадаем, што «Ніва» пачала выходзіць якраз тады, калі ў нашай рэспубліцы сама квітнелі ружы звышінтэрнацыяналізму, і прыклад беластоцкіх сяброў (як відаць з кнігі, ім было вельмі і вельмі нялёгка, як нялёгка і цяпер, у рыначнай Польшчы) падтрымліваў і абнадзейваў тых, хто і на сваёй гістарычнай Радзіме не хацеў мірыцца з нацыянальным нігілізмам, звужэннем ужывання беларускай мовы.

Г. Валкавыцкі — чалавек не пазбаўлены гумару. Гэта адчуваеш з першых радкоў успамінаў: «Журналістам я стаў па наіўнасці. Відаць, прыроднай, бо яна дагэтуль ставіць мяне часта ў клапатлівыя сітуацыі». Гэтае пачуццё гумару неаднойчы дапамагала спадару Валкавыцкаму.

Калі ж папраўдзе, Г. Валкавыцкі не адразу ступіў на журналісцкую сцяжыну. Як і ў многіх з яго пакалення, жыццёвыя планы скарэкціравала ліхалецце: «Вайна спляшчыла амбіцыі, вызначыла іншыя памеры і годнасці. Да пяра пацягнула з нуды. Дзякуючы гэтай няўтольнай валадарцы, я і напісаў усе свае беларускія вершы. А паколькі ў ніўскі час нудзіўся лічаныя хвіліны, напісаў іх мала».

Пасля вайны (у тыя падзеі ён вернецца, прыгадваючы сваё першае наведанне Беларусі ў якасці рэдактара «Нівы» (Г. Валкавыцкі вучыўся на універсітэцкіх курсах, крыху ва універсітэце і раптам — нечаканая прапанова паехаць у Савецкі Саюз. Пасля гэтага аўтар заўважае: «У 1954 годзе скончыў я Літаратурны інстытут (единственный в мире), і пытанне «што далей?», якое дагэтуль тайком скрабло па сэрцы, устала ў поўны рост». Пра вучобу ж — ні слова. Праўда, сёе-тое пра яе згадае пазней, пад час чарговага прыезду ў Савецкі Саюз і сустрэчы з колішнімі аднакашнікамі па Літаратурным інстытуце, даўшы адначасова сціплую, але вычарпальную характарыстыку Яўгенію Еўтушэнку і некаторым іншым цяперашнім паэтычным мэтрам. Але, паўтараю, згадае мімаходзь, бо кніга ж — не пра вучобу ў «единственном в мире», а «нататкі рэдактара». Рэдактара, якога на той час яшчэ не было, як і не было самой газеты, якую ён мусіў узначаліць.

Зрэшты, тады Г. Валкавыцкі наўрад ці дапускаў, што нешта накшталт «Нівы» можа з'явіцца. Ён, не ў прыклад іншым, не саромеецца прызнацца: «Маё ўяўленне аб тутэйшых беларусах пахла белавежскім засценкам. Усё, што ляжала за пушчай, заставалася загадкай, таямнічым і неабжытым архіпелагам. А ў той час беларусы Беласточчыны ўжо падавалі

**Віктар ЯРАЦ**



## Васількі Багдановіча

Дзе вышыня нябёсаў, нібы храм, —
там продкаў душы птушкамі гамоняць.
І на зямлі тут люба ўсё вачам.
Тут васількі—ці нечы спеў, ці споведзь!
Ад волжскіх плёсаў,
ад высокіх стром
душа, як пілігрым, і днём і ноччу
спяшала, каб пачуць, як спее гром
і цёплы дождж з калоссямі шапоча.
Адкуль у гэтай сціплай старане
такая чысціня жывой сінечы,
што сэрца ў цішыні, нібы струну, кране
і запалоніць музыкай навечна!
Які на свеце чарадзей, калі
сюды насенне дзіўнага блакіту
занёс аднойчы, небам каб цвілі
у полі кветкі і дружылі з жытам!
Над вамі промень ціўкне птушанём
і, радасны, да самага змяркання,
напоўнены святлом, адным святлом,
пялёсткаў лёгкіх слухае дыханне.
Як аганькі, свяціце, васількі,
і мне шапніце ў далях-далячынях
пра родны край, дзе ў курганах вякі
заснулі сном між кветак — сініх-сініх...

## Грузінскі матыў

Грузія!
Я слухаў твае песні,
хлеб твой еў і піў тваё віно.
Голас твой — арліны, паднябесны
у маёй душы жыве даўно.
Воблік твой, прызнаюся, прыгадваў
на дарогах іншай стараны,
воч тваіх прыгожых пагляды —
таямніц чароўныя агні.
Хоць марнеў ад службы ў Марнеулі,
ды аблашчан морам быў тваім
у Батумі. (Жорстка сёння кулі
вырашаюць спрэчкі між грузін).
Па праспекце Руставелі слынным
у Тбілісі пахадзіў не раз.
Я спазнаў характар твой гасцінны,
шчодрасць, што жыве не напаказ.
А сягоння — кроў, як недарэчнасць,
на шляхах маршчыністай зямлі,
злосць агнём плюе на чалавечнасць,
сее слёзы, боль, журбу магіл...
Там, дзе слухаў рэчкі, як напевы,
сёння дрэвы моляцца за ўсіх.
Горды край — краіна Сакартвэла.
Стынуць горы з горыччу жывых.

●

...і я спусціўся з воблакаў аднойчы
на гэтую зямлю, дзе мне цяпер
усё часцей у сны прыходзіць ноччу
то дзікі чалавек, то дзікі звер.
Іх галасы — дрымотныя, як пушча,
хачу спасцігнуць, разгадаць — чаму
у іх паглядах цёмна, невідушча,
як быццам дым густы іх агарнуў.

Але яны мяне наскрозь свідруюць,
нібыта патрабуюць — з намі будзь,
забудзь свой род, імя сваё забудзь,
сваю душу — і ў нашай будзеш скуры.
Мы ўмеем спрытна за сваёй здабычай
сачыць — і ты навучышся.
Ну што,
ты згодзен быць такім жа паляўнічым,
якога не расчуляць боль ці стогн!
...Сон скончыцца, а горыч застанецца,
не выплюнуць якую, а насіць,
як стрэмку ў воку, як рубец ля сэрца,
як чорны след, якога не адмыць.

## Ранак маладога сонца

На золку прачнуцца. Умыцца
калодзежнай свежай вадой,
з якой гаманілі зарніцы,
як голле, начною парой.

Грымоты схаваліся ў лісці.
Дажджынкі, як гукі тых слоў,
што выдыхнуў бор смалісты,
вітаючы завязь садоў.

Пачатак пчалінага лета
і ластаўчыных турбот.
А промень, што гляне над светам,
яшчэ, як і ты, без журбот.

Яшчэ — і жыццё на пачатку,
як летні разбуджаны дзень.
І сонца даверу пячатку
на круглы калодзеж кладзе.

●

Адвыканне ад ласкавых слоў —
замыканне сэрцаў на завесы,
І таўсцее адчужэння слой
між людзьмі, занятымі прагрэсам.

Паўзабытым рэхам — той дакор,
што калісьці апякаў за чэрствасць.
І маўчыць душа, як голы бор,
у якім больш ягадак не чэрпаць.

●

Пачатак лета. І траву ўжо косяць
на гарадскіх газонах, у дварах
мікрараёнаў — ім гукаць пад восень
дзяцей, што ў дальніх зараз лагерах.
Май паспрыяў і на дажджы, і росы —
і рана сёлета падскочыла трава.
Дазіметрыст зноў ходзіць па дварах,
што без дзяцей — пустынна-безгалосыя.

●

Між апор — металічных, бетонных,
што у нагу са стагоддзем ідуць,
мне—цымбалы, як рэкі, зазвоняць,
гуслі продкаў між зор загудуць.
Хай шапочуць цыганкамі ночы:
— Не шукай больш дарогі назад...
Зоркі ростань няхай прарочаць.
Пра сустрэчу шуміць лістапад!
Ліст халодны пад ногі кладзецца.
Дзікай птушкі залее пяро.
І ля самага грэецца сэрца
кожны гук, што глыбей, чым Дняпро.

●

Снягі высокія зімы.
Крамяны захад ад марозу.
Плывуць духмяныя дымы;
з іх кожны — з воблікам бярозы.

І на вачах расце пад небам
зямля, здзіўлёная сабой.
Тут — прычашчаўся чыстым снегам,
тут — ачышчаўся цішынёй.



Фота А. МАЦЮША.

ВІНШУЕМ!



# ЯЖОЎСКАЙ РУКАВІЦЫ ЦЕНЬ...

**Алесю ЗВОНАКУ — 85 гадоў**

«Дваццаць з архіпелага ГУЛАГ» — так называецца мая кніга нарысаў, эсэ, прысвечаная сталінскім ахвярам — жывым і мёртвым. У ёй прасочваюцца лёсы Мася Сяднёва, Станіслава Шушкевіча, Барыса Мікуліча, Сяргея Грахоўскага, Андрэя Мрыя і іншых пісьменнікаў. Адзін з іх—Алесь Звонак.

АЎТАР.

Што гэта з ім? Галава цяжкая, быццам ватная, а ў патыліцы смыліць, як бы хтосьці набіў туды цвікоў.

Нейкая сіла прымусіла расплюшчыць вочы. Спачатку не мог дацяміць, што гэта з ім, хто гэта горача дыхае яму ў самы твар.

Праз нейкае імгненне здагадаўся, што гэта — аўчарка стаіць над ім, гатовая ўпіцца вострымі зубамі ў горла. Здагадаўся, але не спалохаўся чамусьці. Страху не было. Была адно смага, хоць мароз, ведаў, стаяў пад сорак...

З-за марозу ён і знясілеў. Ішлі хутка, канваіры не давалі спыняцца, падганялі, пагражалі расстрэлам. 78 кіламетраў — гэта табе не шпацыр. А мароз дастае усё роўна. Добра, што перад адпраўкай пазнаёміўся з ветэрынарным урачом, Дзянісаў, здаецца, яго прозвішча, той даў яму гэты шынель, узяўшы сабе ягоны плашчык. У шынелі куды цяплей было. Не екалеў, пакуль везлі спачатку цягніком, па Транссібірскай магістралі, а потым пехам у Марыінскі лагер, што пад Краснаярскам...

Усё яшчэ як праз сон пачуў:

— Канчай яго, чаго цырымонішча!

Нехта другі запярэчыў:

— Кончыць заўсёды паспеем... Чалавек, як-ніяк...

— Чалавек?! Недабіты контрык ён!..

— Кінь ты! Лепш пытайся ў дахадзягі: можа, сябры ёсць, хай бяруць пад рукі і валакуць... Усё адно не жылец. Навошта ж страляць!..

Ён не паспеў усвядоміць, што гэтыя словы і ёсць дараванне яму жыцця. Раптоўна яго падхапілі з абодвух бакоў пад рукі:

— Пятро, трымайся, Пятро...

Па голасе пазнаў аднаго — Барыса Мікуліча. А другі? Другі, здаецца, Ілары Дуброўскі, з рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». Ілары таксама абнадзеіў:

— Давядзём цябе, на хвалюйся! Толькі — трымайся!

Многія з калоны так і засталіся ляжаць пад сібірскім небам, а яны дайшлі, на той час уратаваліся. Але ці да радасці было? Давялося яму, Пятру Звонаку, у розных лагерах пабываць, хапіла ліха — ворагу не пажадаеш, але Марыінскі — самае жудаснае, што давялося перажыць. Спачатку, калі прыйшлі на месца, здзівіліся. Баракаў не відаць, толькі некалькі вышак, ля якіх праходжваюцца вартавыя. Праўда, з-пад зямлі сям-там клубяцца дымкі. Здагадаліся: вязні ў зямлянках жывуць. А гэта ж халадэча, сырасць, хваробы розныя...

Мерлі людзі, як мухі. Але не толькі хваробы касілі зняволеных. Дзве спе-

Скарочаны варыянт.

З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

**Вольга РУСІЛКА**

## Васьмірадкоўі

●

І ад нязнанае тугі
Раптоўна сэрца страпянецца.
І не пачуюць берагі,
Што ў іх жывая хваля б'ецца.
І больш не забаліць лісцё
Сухой і стомленай галінцы.
І нема закрычыць усё,
Што ў свет не здолела прабіцца.

●

Як мяне мама ратавала
Ад самай дробязнай бяды!
І — аддала мяне вакзалам
На незлічоныя гады.
Яны ляцяць паражнякамі,
Ніякай сіле не стрымаць.
І цяжка думаю начамі:
Як жа мне маму ўратаваць!

●

Маё жыццё прыснілася другому,
І апякло, і шчасцем узнясло.
А ад мяне нібыта уцякло
Мае жыццё — прыснілася другому.
І дом, і цень, і шэпат незнаёмы...
І собіла ж камусьці урачы!
Маё жыццё прыснілася другому,
І ён заплакаў раптам уначы.

г. Віцебск.

**Галіна ДАШКЕВІЧ**

## Жанчына ў чорным

У маім найласкавейшым краі,
Жытнёвым і зорным,
Часцей і часцей сустракаю
Жанчыну ў чорным.

Чарнобыльскай даўняй тугою
Зажураны вочы.
Вядзьмарка-нядоля над ёю
Скуголіць-рагоча.

Мне стронцыю лютая сцюжа
Рве сэрца на часткі.
Каго пахавала ты? Мужа?
А можа, дзіцятка?

Спляліся бяда і праклянцце
У сумесным хаўрусе.
У чым вінаватыя маці
Маёй Беларусі?

Прырода зямлю аздабляе
Красой бездакорнай,
І ўсё ж як дакор выступае
Жанчына ў чорным...

г. Мазыр.

**Марыя БАРАВІК**

## 24 жніўня 1991 года

Спыніся, мітусня і шум, —
Свабода на Манежнай плошчы,
Крывёй сыноў адвеўшы глум,
Свой голас у тузе палошча!

Ды згіне доўгі наш атлум
Ва ўсіх кутках усёй краіны!
Гармонію жалобных дум
Адчуйма ў гэтыя хвіліны!

Гармонію вачэй і душ.
Бяда, ты нас адратавала!..
Злачынцы браліся за гуж...
Ім дужасці не бракавала.

Ім бракавала пачуцця,
Якім жыве душа народа.
Вядзе да іншага жыцця
Трагічная падзея года.

Ды сёння вуліца вядзе
Жалобу па зямлі пакутнай.
Балючы дзень.
Духоўны дзень,
У думнай постаці магутны.

Гармонія жалобных струн —
На могілках ля вашых трун.
Зямля вам пухам, абаронцы!
Але па вас сумуе сонца.

●

Недасканаласць уяўлення,
Недасканаласць думак, спраў,
Недасканалае сумленне, —
І гэта ўсё не Бог паслаў.

Той клін мы выбіваем клінам!
А ці не Новы чалавек
Душу, як тонкую рабіну,
Ламаў і рэзаў, гнуў і сек!..

Смяяўся, як яна канала,
Як светлы промень гас у ёй.
Замацаваў недасканаласць
У новай сутнасці сваёй.

## Мой Бог

Не да аблок раслі — да столі.
Ды й тут нам росту не стае.
Гуляе толькі сум на волі,
Калі наўзрыд душа пяе.

І ў сон, і ў боль прыходзіць мама
І дараванне мне дае.

цыяльныя брыгады магільшчыкаў былі ў лагеры, бо яшчэ і расстрэльвалі вязняў рэгулярна без суда-следства. Ворагі народа — значыць, кожны над табой і суддзя, і начальнік.

Над ім, Звонакам, таксама ўвесь час вісеў гэты меч беззаконня. Часам апускаўся над галавой так нізка, што, здавалася, прыйшоў канец, ўратавання няма. Але, пэўна, пад асаблівай зоркай нарадзіўся ён, бо адступала смерць, праходзіла міма...

Нарадзіўся ў 1907 годзе ў сям'і мінскага рабочага муляра Барыса Звонака. Давялося выхоўвацца ў дзіцячым доме. У пятнаццацігадовым узросце ўладкаваўся ў акцыянернае таварыства «Кніга — вёсцы». Адначасова заканчваў двухгадовыя агульнаадукацыйныя курсы, каб паступіць ва універсітэт. Пазнаёміўся з некаторымі маладымі паэтамі, і сам з першымі вершамі паспеў выступіць у друку. Анатоль Вольны і Алесь Дудар параілі яму паехаць працаваць у рэдакцыю газеты «Чырвоная Полаччына». Быў адказным сакратаром, узначальваў полацкую філію «Маладняка».

У 1926 годзе разам з Янкам Бобрыкам і Янкам Туміловічам выдаў кнігу вершаў «Пунсовае ранне». Прадмову да зборніка напісаў Уладзімір Дубоўка, на той час ужо вядомы паэт.

З утварэннем Саюза пісьменнікаў СССР А. Звонак (у якасці літаратурнага імя ён узяў не сапраўднае Пятро, а Алесь) адным з першых у рэспубліцы атрымаў членскі білет за подпісам самога Максіма Горкага. Білет гэты разам з іншымі дакументамі забралі ў 1936 годзе, калі арыштоўвалі.

Але да арышту заставалася яшчэ некалькі гадоў, і А. Звонак спяшаўся жыць. Хацелася ўдзельнічаць у будаўніцтве новага жыцця. Працаваў на Беларускім радыё, у рэдакцыі часопіса «Маладняк», закончыў літаратурналінгвістычнае аддзяленне педфака БДУ, аспірантуру Акадэміі мастацтвазнаўства ў Ленінградзе. Работа ў Акадэміі навук БССР, у газеце «Літаратура і мастацтва»...

Арыштавалі нечакана. Следчы Уласаў сказаў: «Я і сам перакананы, што вы ні ў чым не вінаваты». Ён узрадаваўся: «Ёсць жа і тут чалавек, які разумее, што не вінаваты». Але далей Уласаў прапанаваў: «Хочаце, напішу пратакол допыту і адпаведным чынам зраблю, што атрымаеце ўсяго пяць гадоў лагеру?» І дадаў: «Зразумейце, пяць гадоў — нямнога. Жыць застанецеся».

Ён адмовіўся прызнаць віну і тым самым купіць жыццё. Уласаў узвіўся: «Усё, з мяне хопіць. Перадаю Кулакову, там адмаўляйцеся, колькі хочаце!»

Што Кулакоў не Уласаў, А. Звонак зразумеў адразу, ледзь трапіў да яго на першы допыт. Следчы не гуляў у лібералънасць. Пяць ці шэсць сутак без перапынку дапытвалі.

У лютай злосці, што прызнанняў так і не ўдаецца выбіць, інсцэніравалі расстрэл. Пасадзілі ў машыну, ноччу павезлі на могілкі. Загадалі выходзіць. Ствалом пісталета таўкнулі ў спіну. Маланкава мільганула думка: «Ну, яшчэ крок-другі і крок гэты стане апошнім». Не, чамусьці марудзяць, падводзяць назад да машыны. На капоце ўбачыў штосьці белае: «Лісток паперы, навошта ён тут?» Кулакоў сыкнуў: «Стаў подпіс, што ва ўсім прызнаешся, і ўсё. Жывым застанешся». Сам не ведае, адкуль з'явілася тая цвёрдасць — адмоўна паківаў галавой. Следчыя гэтага і чакалі, загадалі: «Становіся, спіной да нас!»

Ён стаяў, узіраўся ў маўклівыя крыжы на магілках. Апошнія хвіліны яго жыцця, дваццаць дзевяць усяго пражыта.

Пра гэта — яго верш «Успамін». Нядаўна напісаны, у 1989-ым:

**Плакала наўзрыд дажджамі восень,**
**Вецер варушыў салому стрэх.**
**Між магіл сцяжынкай вузкай, косай**
**Цёмнай ноччу йшоў я на расстрэл.**

**Усё чакаў, што грымне раптам ззаду**
**Стрэл праклятЫ. Згасне воч агонь:**
**У каго маліць-прасіць спагады?**
**Тут злачынства правіць свой закон!**

Са здранцвення вывеў голас Кулакова:

— У машыну, сволач!

Вярнуўся ў адзіночку. Здзіўляўся зноў і зноў бязглуздасці абвінавачванняў. Выдумалі неіснуючую контррэвалюцыйную арганізацыю на чале з былым літоўскім падпольшчыкам, начальнікам галоўліту Якшавічусам. Калі верыць следчым, з нацыяналістычнымі мэтамі аб'ядналіся дырэктар Дома пісьменніка Васіль Залуцкі, пісьменнікі Барыс Мікуліч, Уладзімір Хадыка, Сяргей Знаёмы, Алесь Астапенка, Ян Скрыган, Станіслаў Шушкевіч, Сяргей Ракіта, Міхась Багун. Канечне ж, у гэтай контррэвалюцыйнай хеўры, як настойліва даводзяць Кулакоў і іншыя, знайшлося адпаведнае месца і яму, Алесю Звонаку.

Дванаццаць месяцаў правёў А. Звонак пад арыштам, з іх чатыры ў адзіночнай камеры. Нарэшце, папярэдзілі: «Падрыхтавацца, хутка будзе суд».

Суд доўжыўся два дні, 4 і 5 кастрычніка 1937 года. Тыя ж самыя надуманыя абвінавачанні. Прысуд: дзесяць гадоў.

Так і прывяла турэмная дарога А. Звонака ў Марыінскі лагер пад Краснаярскам. Давялося яму, як і іншым вязням, нямала перажываць, авалодваць новымі прафесіямі. Стаў геолагам. І ў Сібіры працаваў, і пад Нарыльскам. Нават падзякі за ўдарную працу атрымліваў. Адну з іх — як пераможца на працоўным фронце ў гонар 70-годдзя з дня нараджэння Сталіна.

А кожны дзень які-небудзь оперупаўнаважаны, мясцовы «прыдурак» ці канваір мог яго ні за што забіць. Да ўсяго ў яго справе значылася: «Каляндарна». Гэта значыць: як бы ні працаваў, а пакаранне мусіць адбываць цалкам. Дзесяць гадоў і не меней! Каралі нават за жаданне ісці на фронт. Загадзя аб'яўлялі, што хто будзе працаваць лепш, пойдзе на фронт. Людзі стараліся. Прыходзіў час, аб'яўлялі чарговых ударнікаў. Шчаслівыя зэкі развіталіся з сябрамі, упэўненыя, што праз некаторы час возьмуць у рукі зброю, а іх выводзілі ў сопкі і расстрэльвалі.

Алесь Звонак і ў гэтых нечалавечных умовах знаходзіў час, каб нешта пісаць. Для сябе, вядома. Пакутліва, але вершы нараджаліся. І на рускай мове, але і на беларускай, што было ўдвая небяспечней. Тым не менш пісаў. І шкада, да болю шкада, што не зберагліся тыя вершы. Не змог зберагчы. Нават і з дапамогаю сяброў...

У Мінск назаўсёды прыехаў толькі ў 1955 годзе. Ім, вязням сталінскіх турмаў і лагераў, творчае жыццё давялося па сутнасці пачынаць нанава. Трэба было пісаць і пісаць, каб даказаць, што яшчэ ёсць «порах у парахаўніцах», што душа, здарожаная на трывожных ростанях, умее радавацца хараству паўсядзённасці.

Выходзілі кнігі «Табе адной», «Запаветнае», «Россып», «Прадчуванне» і іншыя, выступаў у жанры крытыкі, драматургіі, пісаў успаміны, частка якіх увайшла ў зборнік «Неспакойныя сэрцы». Закранаў у вершах і гады сталінізму. Гаварыць праўду пра гэты цяжкі час лічыў сваім і маральным, і грамадзянскім абавязкам. Аднак, як вядома, даводзілася пра многае пісаць іншасказальна, а то і проста маўчаць.

Да гадоў рэпрэсіраванага юнацтва змог па-сапраўднаму звярнуцца нядаўна. Шырокі грамадскі рэзананс мела яго падборка ў часопісе «Полымя» пад назвай «З таго берага». Паэт павёў свой рэпартаж адтуль, дзе была няўпэўненасць у яго заўтрашнім дні і дзе прайшлі ажно дваццаць гадоў яго жыцця. Пад творамі стаялі дзве даты: «1939—1987». Перажытае і зберажонае памяццю легла ў паэтычныя радкі, прыйшло да сучасніка як споведзь чалавечай душы, збалелай па даверы, адкрытасці, узаемаразуменні і звычайнай чалавечнасці.

Дарэчы, адзін з твораў А. Звонака так і называецца «Спавядальнае». Балюча яго чытаць, хоць бы гэтае прызнанне: «...Ах, як добра, што вышку не схапіў я тады»! Праз колькі старонак гэты боль падвойваецца, патройваецца, бо гаворыцца пра тое, пра што і думаць было страшна: «Сага аб каханні», «Лёшка Пеплаў», «Тэрарыст». Каб пад кожным з гэтых вершаў не стаялі падзагалоўкі — «Сіблагаўская быль», «Калымская быль» — не ва ўсё паверыў бы.

У «Сазе аб каханні» ахоўнікі дазваляюць вязням памілавацца, але пры адной умове, што гэта будзе адбывацца на людзях:

**...Калігулавым нашчадкам**
**Не сасніць гульні такой:**
**Дзве брыгады білі ў ладкі,**
**Сыта рагатаў канвой..**

Лагерныя будні ва ўсёй іх непрыхаванай змрочнасці, трагічнасці паказаў А. Звонак у вершах, якія друкаваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісе «Маладосць». І зноў у «Полымі» выступіў, цяпер з падборкай «Пад сярпом беззаконня». У ёй і ўжо згаданы верш «Успамін», пра тое, як «цёмнай ноччу йшоў я на расстрэл».

У творах гэтых — праўда сталінізму, праўда эпохі, з якой мы паступова развітваемся і з якой нам развітвацца яшчэ доўга. Прынамсі, тым, хто адчуў яе на ўласным лёсе:

**...Даўно стаў памяці здабыткам**
**Той час кашмарны, чорны дзень,**
**А ўсё жыве ў вачах адбіткам**
**Яжоўскай рукавіцы цень!..**

Так сказаў А. Звонак не толькі ад свайго імя, а і ад імя тысяч і тысяч сталінскіх ахвяр.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

---

**І, як раней, вядзе да храма**
**Бог светапогляду яе.**

**І татаў дух мяне вітае,**
**Калі сумленнем я — святая.**
**Пасля дарог у Дзень трывог**
**Перада мной — ягоны бог.**

**Мне — быць сабой.**
**Мне — жыць не ў ролі —**
**Стамілася ад усяго...**
**Не пакідай мяне ніколі,**
**Бог светапогляду майго!**

г. п. Падсвілле.

**Мікола МЕЛЬНІКАЎ**

## Перасяленец

1.
Душу мне песціла рунь жыта
І сада веснавая квецць —
Сагнала прэч з зямлі абжытай,
Што цэзіем завецца, смерць.

Мне наўздагон крычаў аб нечым
Бацькоўскі дом, пакуль з воч знік,
Вёз назаўжды мяне і рэчы
У невядомасць грузавік.

Журба на твар маршчынкай легла,
Як гэты шлях — за небасхіл,
Ім следам за машынай бегла
Маё дзяцінства, колькі сіл.
2.
У дзяцінстве я вельмі любіў саджаць
Дрэўцы,
Але адны з іх
Не прыжыліся,
А іншыя былі зламаны злой
Рукою.
З жахам думаю аб тым,
Што і я не змагу
Прыжыцца
На новым месцы
Ці злы рок паламае
Жыццё,
Бо я — перасяленец
З зоны жорсткага
Кантролю —
Зоны радыяцыйнага
Забруджання.
3.
Родны кут мой, мілы —
Боль мой і самота,
Атамнаю сілай
Згублены ты ўпотай.

Час навек спыніўся
На тваіх прасторах,
У дварах стаіўся
Немы крык дакору.

Не гучаць мянушкі
Вуліцаю ціхай —
След нясвойскай птушкі
След жывёлы дзікай.

Пеўню б звонка крыкнуць —
Неўцям жмурыцца вока,
Веснічкі дзесь рыпнуць,
Ды не чутна крокаў.

Болей шматгалосы
Кут не загамоніць,
Не спявае вёска
І знямеў гармонік.

г. Бабруйск.

**Уладзімір РУДЗІНСКІ**

## Што гавораць у чэргах

**Віюцца чэргі, быццам змеі,**
**Ля магазінаў з дня ў дзень.**
**Не толькі ногі тут нямеюць —**
**Нямеюць душы у людзей.**
**І што ў тых чэргах ні гавораць...**
**Чаго ў іх толькі ні пачуць!..**
**Накшталт таго:**
**«А ТАМ,**
**за морам,**
**Хіба ўжо людзі ТАК жывуць!!»**
**«Талоны...**
**Картачкі...**
**Візіткі...»**
**«...Ад тых — падачкі,**
**што «гнілі»...**
**«Вось да якой нас сёння жыткі**
**(Не пазайздросціш)**
**давялі...»**
**«І што цікава —**
**вінаватых**
**І днём з агнём не адшукаць...»**
**«То ж гандляры**
**ды партакраты**
**Такое здольны вычвараць...»**
**«Куды ж начальства паглядае!..**
**Мясцовыя кіраўнікі!..»**
**«А што:**
**начальства —**
**галадае!..»**
**«Жарэ ж не косткі —**
**кумпякі...»**
**«Ды розныя там сервелаты...»**
**«Ікру ўмінае ды балык...»**
**«А мы і ліверцы, вунь, рады...»**
**«Народ наш да ўсяго прывык...»**
**«А гляньце вось —**
**яны ў чым ходзяць—**
**Усё ж з іголачкі на іх...»**
**«Усюды — мафія, дый годзе!..»**
**«Надзея ж...**
**на сябе саміх...»**
**«І чым угнявілі мы Бога —**
**Святога духа і айца!..»**
**...Тут маналогі й дыялогі,**
**Як самі чэргі —**
**без канца...**
**Купіць людскі ў тых чэргах розум...**
**Ды на ЯКІ ж наводзіць роздум!..**

г. Бабруйск.

**Іван МІЦЬКО, святар**

## Страх

**Шмат бывае розных праяў**
**У свеце жывых істот.**
**І вось адна з гэтых з'яў**
**Што існуе для ўсіх парод.**

**Хтосьці назваў яе Страх.**
**І сумная назва гэта**
**На чорных сваіх крылах**
**Лятае над грэшным светам.**

**Мышы баяцца катоў,**
**Каты баяцца сабак,**
**Сабакі баяцца звяроў,**
**Звяры — паляўнічых ваяк.**

**Вецер стукае ў дах —**
**Малое дзіця крычыць:**
**Ім адольвае страх;**
**Сціхне вецер — маўчыць.**

**Страх для дарослых людзей**
**У цёмных, глухіх начах,**
**Ад розных трывожных падзей**
**І ў злых чалавечых вачах.**

**Мноства прычын для страха,**
**Драпежная гэта птаха.**

**Аднойчы (у добры час)**
**Алесь Адамовіч сказаў,**
**Каб кожны (рашуча) з нас**
**Свой страх, як каня, закілзаў.**

**«Не бойся! — сказаў Алесь, —**
**І ў гразь без прычыны не лезь».**

**І ўсё ж мы павінны баяцца**
**Душой сваёй выкрыўляцца,**
**Людзей разглядаць як смяццё,**
**Атручваць людское жыццё,**
**Рабіць такія памылкі,**
**Якія вядуць да магілкі.**

**Бойцеся быць мышамі,**
**Бойцеся быць катамі,**



Фота А. КЛЕШЧУКА.

**Бойцеся быць сабакамі,**
**Бойцеся быць звярамі**
**І... забіякамі, —**
**Тымі, што вельмі імкнуцца**
**Да сэрца нажом дакрануцца.**

**І, што так прыемна спрадвеку,**
**Не бойцеся быць Чалавекам.**

г. Маладзечна.

# «Робім нацыянальны прадукт...»

## «Арцель-Ф: паміж элітарным і камерцыйным кіно

**Гутарка з Алегам Буйніцкім адбылася ў невялічкім пакоі невялічкага будынка на вуліцы Карла Маркса. У гэты будынак пераехала кіраўніцтва Саюза кінематаграфістаў Беларусі пасля таго, як яго «папрасілі» з Чырвонага касцёла. Незалежная кінастудыя «Арцель-Ф», штат якой складаецца ўсяго з дзевяці чалавек, займае ў ім некалькі пакояў. Алег Васільевіч, адзін з заснавальнікаў «Арцелі» і яе дырэктар, расказваў мне пра студыйныя справы, курачы цыгарэту за цыгарэтай.**

— За час, які мінуў з 9 студзеня 1990 года, дня заснавання «Арцелі-Ф», студыяй зроблены тры дакументальныя і шэсць мастацкіх фільмаў. *Пракатны лёс іх складваецца* няблага. «Грэх ліцадзейства» рэжысёра А. Карпава-малодшага купіла ЦТ. «Мона Ліза» М. Студнева выклікала зацікаўленасць кінапракатчыкаў. Дакументальную стужку «Гуд бай, СССР» рэжысёра А. Рудэрмана набыла *Бі-бі-сі для свайго* серыяла «Другая руская рэвалюцыя». Сёння на Беларусі трынаццаць кінастудый, якія не залежаць ад дзяржаўных структур. Некаторыя з іх ужо падзяліліся (так, «НС» распалася на тры студыі, а «Грамада» *на дзве*). *І трэба* адзначыць, што з усіх самастойных студый фільмы бесперапынна выпускаем толькі мы.

**— Над якімі фільмамі працуе «Арцель» цяпер!**

— Рэжысёр М. Браўдэ здымае фільм «Памерці, каб пакуталі іншыя» паводле Леаніда Андрэева. Цяпер, каб выжыць, акрамя элітарнага трэба рабіць і камерцыйнае кіно. Ёсць цікавая прапанова ад французскага тэлебачання зняць супольна серыю дакументальных фільмаў пра нашых народных майстроў.

**— А як вы ставіцеся да тых працэсаў, якія адбываюцца ў беларускім дзяржаўным кіно!**

— Даволі скептычна. Чыста нацыянальнае кіно зараз існаваць не можа, пракат гэтаму ніяк не спрыяе. Я лічу, што, па-першае, трэба цвёрда вырашыць — павінна Беларусь мець сваю кінематаграфію ці не? Калі вырашылі, што сваё кіно нам патрэбна, дык павінны стварыць ільготныя ўмовы як для дзяржаўнага кіно, так і для тых, хто робіць кіно незалежна. Паводле сучаснага заканадаўства наша студыя прыраўніваецца да пасрэдніка, таму што не мае сваёй базы. Але ж мы арандуем кінамагутнасці! З боку ж «Беларусьфільма» ў адносінах да нас ідзе сапраўдны генацыд, за арэнду трэба плаціць сотні тысяч. Навошта так душыць самастойныя студыі? Мы не просім датацый у Міністэрства культуры, мы просім толькі пазбавіць такіх жахлівых падаткаў, каб, набыўшы нейкі прыбытак, пусціць яго ў вытворчасць, у новы фільм. А недзе праз пяць гадоў, калі мы цвёрда станем на ногі, можна браць з нас сённяшнія падаткі.

**— Прадукцыя вашай кінастудыі адносіцца да беларускага кіно. Але якое месца займае нацыянальная тэматыка ў фільмах «Арцелі»! Не кажу ўжо пра тое, што нацыянальная мова ў іх амаль не гучыць.**

— Мы не падрыхтаваны яшчэ да таго, каб рабіць фільмы *на беларускай мове*. Усесаюзны глядач не пойдзе глядзець, а пракатваць фільмы толькі ў Беларусі справа бесперспектыўная— затраты ніколі не акупяцца. Акрамя таго, Беларусь не Украіна, дзе мова захавалася ў народзе лепш. І знешнія *прыкметы нацыянальнага* каларыту яшчэ не гарантуюць высокага мастацкага ўзроўню фільма. Прыкладаў таму ў кінематографе безліч. Я лічу, што набываць адценне кіно нацыянальнага трэба паступова. У фільмах «Арцелі-Ф» гэта — беларускія краявіды, на фоне якіх адбываецца дзеянне, уштукоўванне беларускіх слоў у мову персанажаў. Тыпова беларускай па тэматыцы з'яўляецца фантасмагорыя «Уносим ноги» рэжысёра Мядзведзева з прысвячэннем «усім зажыва пахаваным беларусам». У нашых фільмах задзейнічана шмат акцёраў народных тэатраў. Ды і увогуле «Арцель» мае права на эксперымент, які не могуць сабе дазволіць ніякія кінаструктуры дзяржкіно. Мы даём магчымасць рэалізавацца многім рэжысёрам-пачаткоўцам. Зразумела, нам патрэбна падтрымка, як патрэбна яна зараз усім, хто займаецца вытворчасцю, бо мы робім нацыянальны прадукт. Да таго ж, прыкладам звяртання «Арцелі-Ф» да нацыянальных праблем — дакументальная стужка рэжысёра Івана Белавуса «Час перамен». Фільм пра падзеі, якія адбываліся ў нас на вачах...

**— Можа, у перспектыве вы прычакаеце паляпшэння ўмоў!**

— Так. У хуткім часе ствараецца асацыяцыя незалежных студый з мэтай падштурхнуць беларускую заканатворчасць да стварэння льготных умоў для незалежнага кіно. Спадзяюся, што гэта будзе сіла, з якой мусяць лічыцца. Мы лічым, што трэба больш настойліва весці гаворку пра тое, што самастойнаму кіно не трэба замінаць — ім трэба апекавацца. Вось вам прыклад: сёння незалежныя студыі ў рэспубліцы выпускаюць 10—12 фільмаў у год, у той час як «нацыянальны» «Беларусьфільм» — адзін. Нават гэтыя лічбы кажуць, што суб'ектам нацыянальнай культуры кінематографа ўжо з'яўляюцца незалежныя студыі. *І гэта* — факт!

**Гутарыў Ягор КОНЕЎ,**
**студэнт факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**

ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ

**Скажу шчыра,— не ведаю, што такое «чыста нацыянальны прадукт»» і «не чыста (нячысты!) нацыянальны прадукт», дый што менавіта (скажам, які канкрэтны тутэйшы краявід ці слоўца) вызначае *прадукт «Арцелі-Ф» як нацыянальны*; не ведаю, як «супольна з французскім тэлебачаннем «зняць серыю дакументальных фільмаў пра нашых народых майстроў», калі «мы не падрыхтаваны яшчэ да таго, каб рабіць фільмы на беларускай мове»; не ведаю таксама, ад каго ці чаго студыйцы лічаць сябе незалежнымі... Праўда, пераканалася ў тым, што арцельны прадукт вымагае гутаркі не аднабаковай: слова арцельцаў (прынамсі, іхняга кіраўніка) мусіць ураўнаважыць слова больш аналітычнае, — кіназнаўцы, кінакрытыкі, ваша слова!..**

Рэдактар аддзела тэатра, кіно і тэлебачання Жана ЛАШКЕВІЧ.

НОВЫЯ ВЫДАННІ

# ЗАПРАШЭННЕ ДА ДЫЯЛОГА




У адным са сваіх леташніх нумароў «ЛіМ» паведамляў ужо, што Міністэрства культуры і Саюз тэатральных дзеячаў Рэспублікі Беларусь заснавалі новае перыядычнае выданне — часопіс драматургіі і тэатральнага мастацтва «Тэатральная Беларусь». І вось першы нумар прыйшоў да тых, хто любіць тэатр, каго хвалююць яго праблемы, каму хочацца пабольш ведаць пра спецыфіку гэтага віду мастацтва, адчуваць сябе далучаным да нацыянальнай культуры. Менавіта гэтыя задачы, як бачна са звароту да чытача галоўнага рэдактара, доктара мастацтвазнаўства А. Сабалеўскага, і ставіць перад сабой «Тэатральная Беларусь»: *«Захоўваючы неабходны навуковы ўзровень, мы бяром кірунак на агульнадаступнасць выдання».*

Што ж прапануе часопіс сваім чытачам?

Друкуецца драма М. Арахоўскага «Ку-ку». У слове пра аўтара Т. Сабалеўская гаворыць пра жыццёвы шлях маладога пісьменніка (М. Арахоўскі нядаўна прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі) і пра яго творчасць. Пра п'есу «Ку-ку» Т. Сабалеўская кажа, што яе «можна аднесці да абсурдысцкай плыні ў драматургіі. У творы як бы існуе нябачная рыса, што падзяляе рэальнае ад уяўнага: сапраўдны свет, у якім жыве Вадзім і ўсе жывыя асобы, як выдуманага, які сам стварыў і існуе з уласнымі развагамі і прыдуманымі істотамі. Герой жыве як бы ў двух вымярэннях: у звычайным побыце і ў свеце фантазіі».

Нечакана было сустрэць у часопісе імя грэка-каталіцкага святара Я. Матусевіча. Тым не менш, яго выступленне «Рэлігія і тэатр» тут вельмі дарэчы: «...і тэатр і рэлігія садзейнічаюць паляпшэнню маральнага аблічча чалавека: добрая драматургія, таленавіты састаў акцёрскай трупы, арыгінальная рэжысёрская трактоўка п'есы, выдатна зробленыя касцюмы і дэкарацыі, умела падабранае музычнае і гукавое афармленне спектакля — усё гэта спрыяе таму, што заўзяты тэатрал не прапускае ніводнай пастаноўкі ў любімым калектыве, вырастае ў высокаадукаванага, шляхетнага інтэлігента, у чалавека, які ніколі не пакрыўдзіць слабейшага за сябе, ніколі не ашукае, не зробіць шкоды свайму блізкаму. У храме аматар тэатра будзе таксама шукаць для сябе элементы тэатральнасці: у арганнай музыцы, у харавым і сольным спеве, у пропаведзі (*казанні*) святара...» Айцец Ян ад душы зычыць новаму выданню «Памагай вам Бог!».

Пра тэатр і час, сапраўднае мастацтва і кан'юнктурную аднадзёнку разважае ў нататках «Прымушаючы нас плакаць і смяяцца» Б. Бур'ян.

*Пра тое, якім быць тэатру* сёння, — дыялог крытыка С. Берасцень і дырэктара ДАВТа оперы і балета С. Картэса «Нас будуць паважаць за якасць». У мінулагодні тэатральны сезон вяртаюць чытача (гледача) М. Гарэцкая («Ці заўсёды «першы» *блін комам?*»), *Т. Ратабыльская* («З тых незабыўных майскіх дзён») піша пра беларускі фестываль тэатраў лялек, А. Савіцкая («Спадзяваннні на казку») — пра спектакль па казцы З. Дудзюк у брэстаўчан, Т. Гаробчанка («Вешчае слова паэта») — *пра* «Тутэйшых» Я. Купалы...

Т. Гаробчанка падрыхтавала да друку і фрагмент успамінаў колішняй купалаўкі Т. Бандарчык «Так мы пачыналі». Гісторыя беларускага тэатра ажывае і ў інтэрв'ю Г. Саўковіч з І. Ждановіч «Партрэт у неюбілейным інтэр'еры».

СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА

# Ступень сталасці

## Пра творцаў, вытворцаў і тэлеброкераў

Хоць час наш з яго штодзённымі нечаканасцямі амаль што адвучыў здзіўляцца, аднак, чытаючы прэсу, зрэдку адчуваеш, як брыво міжволі так і папаўзло ўгору...

Нядаўна вычытала, што стваральнікаў тэлевізійных перадач цяпер называюць «вытворцамі тэлепрадукта». А само тэлебачанне — «суб'ектам ідэалагічнага і культурнага працэсу, прызначаным выконваць як традыцыйны комплекс сацыяльных функцый, так і для абслугоўвання грамадства ў эканамічнай, дзелавой, камерцыйнай і фінансавай сферах». А ў будучым (пры пэўных умовах) мы зможам нацешыцца «наданнем гэтай дзейнасці культурнага аблічча». (!!!) Надрукавана гэта ў «ЛіМе» № 2, 1992 г.

Прызнацца, выклікаўшы спачатку невялічкі шок, гэтая навамодная лексіка нагадала старую незабыўную інтанацыю прыснапамятных заклікаў накшталт: «Вытворцы відэапрадукта! Выканаем і перавыканаем увесь комплекс культурна-сацыяльных функцый!..»

А калі без лішніх эмоцый, дык, каб не распісвацца ў сваёй «малакультурнасці», адзначым, што да некаторых высноў аўтара лімаўскага артыкула «Эфект адсутнасці» варта прыслухацца. Напісаны ён кандыдатам навук, выкладчыкам БДУ, крытыкам Н. Фральцовай. Каму ж як не выхавацелям будучых тэлежурналістаў ведаць, як іх цяпер называць!

Можна пагадзіцца з тым, што з тэлеэкранаў і сапраўды знік аналітычны рэпартаж, не вабіць гледача «кампетэнтны каментарый», што няма на Беларускім тэлебачанні «вялікіх тэм» і глыбокай праблематыкі, зніклі «спаборніцтвы эрудытаў», бракуе публіцыстыкі і драматургіі. Аднак удакладнім, што ўсяго гэтага няма ці бракуе ва ўласнай творчасці тэлежурналістаў, бо ў прамых рэпартажах з месца розных падзей, мерапрыемстваў, пасяджэнняў — усяго гэтага хапае. Напрыклад, калі транслююцца пасяджэнні Вярхоўных Саветаў, дык тут табе і конкурсы эрудытаў, і аратарскія спаборніцтвы сучасных цыцэронаў з іх «палымянай» публіцыстыкай. А якая драматургія! Якое яркае відовішча! І ніякі аналітычны каментарый непатрэбны, каб зразумець, што адбываецца на экране. Увесь гэты «відэапрадукт» пастаўляе само жыццё. І каб паказаць яго, няма патрэбы ў асаблівых творчых намаганнях. А што да затрат матэрыяльных, дык апошнім часам сам, так бы мовіць, «аб'ект трансляцыі» гатовы плаціць. Напрыклад, аплаціць трансляцыю браліся ўдзельнікі агульнаармейскага афіцэрскага сходу ў Крамлі, абы толькі гэты сход ва ўсіх падрабязнасцях быў паказаны па першым канале тэлебачання. Дарэчы, такога захапляючага спектакля, якім быў сход, самому тэлебачанню стварыць не па сілах. Што і казаць, жыццё ў яго, як сказаў паэт, «мінуты ракавыя» цікавей за мастацтва. Так што тэлебачанню трэба толькі паспяваць адлюстроўваць яго ва ўсёй паўнаце, выходзячы са сваімі камерамі на вуліцы і плошчы, размяшчаючы іх у залах пасяджэнняў, сходаў і г. д. Думаю, дарэмна папракала крытык: маўляў, гэта самае лёгкае — правесці рэпартаж з вуліцы. Адкуль жа яшчэ, калі наша грамадскае жыццё на вуліцах ды на плошчах якраз і вірує! Няўжо цікавей весці «заарганізаваны» рэпартаж з заводскіх цэхаў ды з фермаў, з урачыстых сходаў у гонар афіцыйных святаў, што яшчэ зусім нядаўна запаўняла тэлеэкран сваёй «ідэйна-вытворчай» нудотай?

Так, сапраўднае, надзённае тэлебачанне сёння нагадвае люстэрка, у якое часам бывае страшна зірнуць. Страшна, а часам і агідна. Асабліва тады, калі на экране — як у жыцці — *«можна ўсё, што не забаронена»*. Ну як паставіцца да паважаных акцёраў, якія выходзяць на сцэну без штаноў? Менавіта такой «вясёлай карцінкай» пачаставаў нядаўна гледачоў маскоўскі дом кінематаграфістаў. А тэлекамеры «беспристрастно» адлюстравалі гэта. Вядома, выхад акцёраў — Дзяржавіна і Шырвіндта — на сцэну без штаноў — метафара. Падалося, што тут выявіўся дэфіцыт густу, дэфіцыт выхаванасці, але тэлекамера за гэта адказнасці не нясе. Бо яна паказвае ўсе дэфіцыты.

Ды сярод усіх дэфіцытаў — ад штаноў да культуры — самы галоўны, на маю думку, дэфіцыт — чалавечых зносін, сустрэч з разумным, спакойным і пажадана хоць крыху вясёлым чалавекам. На жаль, мы развучыліся ўсміхацца, развучыліся гаварыць адзін аднаму самыя звычайныя ветлівыя словы. Мне запярэчаць: маўляў, ад добразычлівай усмешкі каўбасы не прыбавіцца. Але ж тэлевізар — не халадзільнік, і тэлебачанне — не «вытворца матэрыяльнага прадукта», яно павінна несці «ежу духоўную». Ды, зрэшты, хто сказаў, што матэрыяльныя каштоўнасці больш важкія за духоўныя? Ці не тыя марксісты, якраз сваім татальным матэрыялізмам і справакавалі суцэльную нашу галечу?

А так хочацца, каб чалавек з экрана хоць зрэдку нагадваў: «Азірніцеся, людзі! Усё міне, усё пройдзе, як і само жыццё — *ваша жыццё!..* Даражыце ім самім, даражыце вечным, агульначалавечым, бо колькі б не мянялася палітычная сітуацыя, вечнае — каханне, сяброўства, зямля, неба, зоры і сонейка — застаецца». Думаецца, што і глядач чакае *такога слова* ад тэлебачання, якое павінна дапамагчы чалавеку выстаяць, прыўзняць яго над будзённасцю, над жорсткім матэрыяльным клопатам дня, дапамагчы супрацьстаяць маральнай дэградацыі, якая, як чума, распаўсюджваецца ў грамадстве. Але замест таго, каб зрабіцца амбонам духоўнасці, тэлебачанне на вачах ператвараецца ў нейкі гандлёвы цэнтр.

чэнняў. А калі я запыталася ў яго, як гэта робіцца, ці мяне хто пасватае ў выдавецтва, ці я сама павінна звярнуцца да іх і сама сябе сватаць, Танк у спешцы нешта сказаў аб Саюзе пісьменнікаў, але я не зразумела, а дакучаць больш занятаму чалавеку не адважылася. Мабыць, трэба пакінуць думку аб тым, каб пабачыць сваю работу ў асобна выдадзенай кніжцы.

Прачытала я ў «Полымі» ўспаміны Лынькова, цяпер чытаю Пестрака. Параўнала свае ўспаміны з Лыньковым. Ну, што ж... Лынькоў жа — пісьменнік шырокага маштабу! Хіба мне зраўняцца з імі? Але каб не выкінулі ў мяне больш палавіны, прытым фрагментаў, якія маюць некаторую цікавасць для гісторыі беларускай культуры, дык і мае ўспаміны чыталіся б з большай увагай і цікавасцю.

Ну, бог з імі!

Жыву я, браток, вельмі самотна. Як дэпутат с/савета змагаюся як мага за лепшае, святлейшае жыццё ў нашым кутку, але падтрымкі не маю. Надта ж многа ў нас усялякай брыдоты і подласці.

Моцна паціскаю тваю руку. Прывітанне жонцы.

І яшчэ раз дзякую за памяць.

P. S.

Прачытаўшы ў «Полымі» мае ўспаміны, цётка Уладзя зрабіла мне вымову. Яна пакрыўдзілася за Ластоўскага і, як відаць было з яе гутаркі, за сябе, што я нічога не ўспамінаю аб ёй і мала аб Янку. У віленскі перыяд 1913—14 гг. я мала з ім сустракалася, больш магла б сказаць аб гадах 1925—36. Пры тым Владка сказала, што мае ўспаміны не маюць ніякай вартасці і нікога не могуць зацікавіць.

Няўжо гэта праўда?

**3.1.62**
**Будслаў**

Андрэйка, браток даражэнькі!

Нязмерную радасць прынесла мне тваё навагоднее прывітанне. Мне здавалася, што ў Мінску нікога ўжо няма, апрача цёці Мані, хто помніць аба мне. Толькі прыяцелі з Масквы не забываюць мяне, а з Мінска нават на лісты аб справах не адказваюць.

Летам, праязджаючы праз Мінск у Маскву заходзіла адведаць цябе, але не магла дастукацца, суседка ваша сказала, што ўсёй сям'ёй вы у Друскеніках. Хацела напісаць, але не ведала, ці ты ў Мінску і ці дазваляе табе здароўе чытаць і адказваць на лісты.

Зрэдку піша мне сардэчныя лісты Зося Шамардзіна. Яна ўжо тры месяцы ляжыць у бальніцы і, як піша, канчаткова вышла са строю. Летам я была ў яе на дачы. І тады яна не расставалася з пузырком у руках, з якога праз гумовую грушу накачвала ў свае лёгкія кісларод, а цяпер зусім злягла. І нягледзячы на свой цяжкі стан, столькі ў ёй жыццярадаснасці, светлага аптымізму, што мне прыходзіцца пазайздросціць ёй. Цудоўны яна Чалавек!

Я, здаецца, казала табе, што Казека адмовіўся прыняць да друку маю кнігу, і я перастала над ёй працаваць.

Аднак у апошні мой прыезд у Мінск улетку Глебка настойліва ўгаварыў мяне яшчэ раз зайсці ў БДВ і пагаварыць аб маёй кнізе. Татура я там не застала, але адзін з рэдактараў (забылася яго прозвішча) сказаў, што мая кніга запланавана на падрыхтоўку ў 1962 г. і каб я здавала падпісаны машынапіс у 2-х экз. Пасля гэтага я зноў засела за работу, закончыла 1925 годам, сваёй высылкай з Латвіі і пераездам у БССР. Трэба было перадрукаваць на машынцы 140 стар. рукапісу. У нас тут ні машынкі, ні машыністак няма. Пісала ў Мінск у «Полымя», Юрку Гаўруку, каб дапамаглі мне знайсці машыністку, якая б згадзілася перадрукаваць — адказу не атрымала. Рэдактар нашай раённай газеты забраў гэтыя 140 старонак, абяцаючы перадрукаваць у рэдакцыі. Ужо 2 м-цы прайшло, а і сягоння яшчэ не гатова гэта работа. Пры гэтым даведалася, што ў іх няма машынкі з беларускім шрыфтам і друкуюць з рускім «і».

Хоць Глебка хваліць маю работу (судзячы па моцна скарочанаму варыянту ў «Полымі»), аднак я не задаволена ёю. Гэта хутчэй аўтабіяграфічная аповесць, чымся ўспаміны. Я ставіла сваёй мэтай даць не паасобныя нарысы аб выдатных асобах Беларусі, але ўмовы, у якіх заражалася беларуская інтэлігенцыя, змаганне за права «людзьмі звацца». Я пісала гэта, маючы на ўвазе нашу сучасную моладзь і для яе больш, чымся для старых. Але я не такая ўжо знатная асоба, каб пісаць сваю аўтабіяграфічную аповесць, а таму і сумняваюся, ці варта старацца аб выданні асобнай кніжкай. Ну, але прачытаеш і скажаш сваё слова.

Цікавая справа выйшла з адным маім пісьмом у рэдакцыю «ЛіМа». Паявіўся ў «ЛіМе» артыкульчык Самсонава «Цудоўны свет душы» аб кнізе М. Фарнальскай «Успаміны маці». Я папрасіла рэдакцыю выслаць гэты нумар Фарнальскай, бо ў Будславе нельга дастаць у продажы ніводнай беларускай рэспубліканскай газеты. Пры гэтым, спасылаючыся на выступленні на адкрытым партсходзе СПБ аб дрэнным распаўсюджанні бел. кнігі, я напісала аб становішчы з бел. літ-рай у нашых кнігарнях, бібліятэках, СДК і аб нашай школе ў Будславе. Закончыла такімі словамі: «Пішу гэта не для друку, дзялюся сваімі думкамі».

Дні праз 2—3 прыбягае да мяне Самсонаў — супрацоўнік нашай раённай газеты.

— Вы пісалі ліст у «ЛіМ»?

— Пісала. А што?

— Мне толькі што званілі з «ЛіМа» і прасілі, каб вы яшчэ раз напісалі тое самае, але без прыпіскі «не да друку». Матэрыял ваш цікавы, але яны не маюць права надрукаваць, паколькі ёсць такая прыпіска. Дык «пожалуйста, напишите все заново, но обязательно без этой приписки «не для друку».

У гэты час я пісала другую карэспандэнцыю аб музыкальным радыёвяшчанні. Паслухала Самсонава, занава напісала «Ад слоў да канкрэтных спраў», тое-сёе дабавіла ў адрас Мін-ва асветы і адаслала абедзве кар-цыі. Праз якісь час атрымала з «ЛіМа» кароценькі ліст, што «аб музыкальным радыёвяшчанні» пераслалі ў Радыёкамітэт, а аб тым, што яны прасілі мяне занава напісаць, ні гу-гу! І ў газеце да гэтага часу не змясцілі і не палічылі патрэбным напісаць, што ў смеццевы кошык укінулі.

Праўда, на асобным лісце я напісала, што раблю гэта па прапанове, перадана мне праз Самсонава, і дабавіла: «Глядзіце, каб не нашлёпалі і мне і вам за гэты артыкул». Мабыць, пабаяліся надрукаваць, але ж трэ было б як-небудзь і мне аб гэтым сказаць.

Калі часам будзеш на Захарава, 19, загляні ў «ЛіМ» і пачытай гэты артыкул. Я б хацела, каб і Мікіта Сяргеевіч пачытаў аб гэтым. Можа б, хоць і аблаяў мяне і абвінаваціў у рэцыдыве нацыяналізму, але хоць стала б выразнай сітуацыя ў нас, каб мы ведалі, як да гэтага пытання адносіцца.

У 2-м томе зборніка Р. Шырмы «Беларускія народныя песні», у раздзеле «Песні няволі і змагання» змешчана песня «Пад гоман вясёлкі», запісаная ад Піліпа Пестрака ў 1941 г. у Гродна. У мяне нейкім цудам захавалася адкрытка-лістоўка, выданая — (ужо не помню — ні то ў Коўне, ні то ў Берліне) — у 1921 г. гэтай песні з нотамі на мелодыю адной рэвалюцыйнай песні (у зборніку другая мелодыя) з подпісам «Паўлінка». Я гэту песню напісала ў 1920 г. у Лодзі, і надрукавана яна была са зменена рэдакцыяй нейкай суполкай беларускага сялянства. Разам з іншымі брашуркамі, накіраванымі супраць польскіх акупантаў, гэта лістоўка распаўсюджвалася ў Зах. Беларусі.

Здуру я паказала гэту адкрытку гэтаму самаму Самсонаву. Ён выклянчыў яе ў мяне на тры дні. Пазней казаў, што «ЛіМ» даручыў яму сфатаграфаваць і прыслаць у рэдакцыю з артыкулам «Песня знайшла свайго аўтара». Ён узяў і другую адкрытку таго ж самага выдання...

І вось да гэтага часу ні Самсонава, ні маіх адкрытак не бачу. Баюся, каб не зажыліў іх. Апублікоўваць іх я бы не хацела, зважаючы на зменены тэкст у пару радкоў.

Хацела б я заняцца перакладам кнігі Фарнальскай «Успаміны маці». Я на гэта маю некаторае маральнае права і абавязак, бо не толькі была знаёма з сям'ёй Фарнальскіх, але і дружыла з Малгосяй, а мае браты дружылі з братамі Малгосі.

Пісала аб гэтым маім жаданні Юрку Гаўруку, прасіла даведацца, ці маглі б мне даручыць гэты пераклад. Бо калі не надрукуюць, то шкада будзе і часу, і сіл траціць на гэту работу, ды і сродкаў не маю на аплату машынапісу. Але Гаўрук нічога мне на гэта не адказаў.

Магчыма, хутка пабачымся. А пакуль што пасылаю шчырае прывітанне і пажаданне здароўя табе, браток, і ўсёй сямейцы тваёй.

Са шчырым сэрцам...

**18.2.62**
**Будслаў**

Даражэнькі Андрэйка!

Яшчэ раз шчыра дзякую табе за параду. Ідучы ад цябе пехатой, я раздумвала, ці варта цяпер звяртацца да Глебкі, бо, сапраўды, яшчэ рана апублікоўваць апошнія два раздзелы, тым больш, што і напісаны яны значна горш, чымся папярэднія. Дайшоўшы да Дома друку, я адразу ўзглабалася да Татура. Аказваецца, я ў самы час прыехала з рукапісам, бо яшчэ тыдзень — і было б позна здаваць. Пакінуўшы сабе гэтыя два раздзелы да 2-й кнігі, якую ўсё ж такі збіраюся пісаць, здала рукапіс. Можа і дажыву да таго часу, пакуль кніга выйдзе з друку, хоць нельга надта спадзявацца на гэта, бо ўвосень 1963 г. мне стукне 70 год. Ну, а другая кніга, у якой галоўным чынам будуць 25—30—37 гады, калі і пабачыць свет, дык ужо мае вочы яе не пабачаць, а не — будзе ляжаць дзе-небудзь у архівах.

Спыталася я ў т. Татура аб магчымасці выдання на беларускай мове кнігі Марцыяны Фарнальскай «Pamiętnik matki», перакладам якой я хацела б заняцца. На гэта ён мне адказаў, што ёсць няпісаны закон, які паходзіць ад Міністэрстваў як рэспубліканскіх, так і саюзных, паводле якога кнігу, якая ўжо вышла з друку ў перакладзе на рускую мову і паступіла ў продаж у нац-ных рэспубліках, не дазваляецца выдаваць у перакладзе на мову гэтых нацыянальных рэспублік, бо там ужо ўсе ведаюць рускую мову і могуць прачытаць гэту кнігу на рускай мове.

— Чаму ж тады перакладаюць рускіх класікаў? — пытаю. — Чаму выйшаў з друку пераклад Гаўрука «Любіць будзем заўтра» — Андрэ Сціля, хаця ў продажы ў нас ёсць рускі пераклад? Чаму ў кіно паказваюць у нас «Рэвізора» Гогаля на беларускай мове, а «Паўлінку» Купалы на рускай? Чаму па радыё часам перадаюць малавартыя апавяданні з «Огонька» на беларускай мове? А кнігі Фарнальскай не знойдзеш у продажы ні ў нас, ні ў Маскве.

На гэтыя пытанні ў адказ Татур толькі плячыма паціснуў.

На другі дзень я выехала дамоў...

**Прадмова і публікацыя Алены ПІСЬМЯНКОВАЙ.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# ДАЛУЧЫЦЕСЯ ДА НАС

Адначасова з Курапатамі пад Менскам была абнесена высокай агароджай і калючым дротам пустка станцыі Левашова каля Ленінграда. З ліпеня 1937 года па снежань 1938 года тут расстраляна 38 тысяч чалавек. Сярод ахвяраў многа беларусаў — гэта і тыя, што настала пераехалі ў Ленінград, а таксама тыя, што вучыліся альбо праходзілі тут вайсковую службу. Многія з імёнаў забітых ужо вядомыя — член Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбурзе Анатоль Разумаў аднавіў дэталі іх біяграфій. Разам з іншымі ляжыць у Левашове член-карэспандэнт Акадэміі навук, ганаровы член Берлінскай, Мюнхенскай, Страсбургскай акадэмій, ураджэнец Друі, доктар права Уладзімір Беняшэвіч і двое яго сыноў-блізнят. Выратаваць сусветна вядомага вучонага не дапамаглі нават асабістыя хадайніцтвы Фрыцьёфа Нансена і Альберта Эйнштэйна.

Зараз з высокай агароджы Левашоўскай пусткі зняты калючы дрот — усё астатняе захоўваецца некранутае. Сюды прыходзяць людзі ўшанаваць памяць ахвяраў сталінізму. Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Санкт-Пецярбурзе вырашыла гэтай вясной, на Радаўніцу, паставіць у Левашове крыж — памяці ўсіх беларусаў, якія пахаваны тут. У нашым жалобным мерапрыемстве прымуць удзел прадстаўнікі грамадскіх арганізацый Пецярбурга, члены літоўскай, украінскай суполак, святары розных канфесій, сваякі ахвяраў, чые імёны ўдалося знайсці.

Мы запрашаем усіх на Беларусі далучыцца да нас у гэты дзень! Хай гэта будуць Беларускі фонд культуры, Таварыства «Мартыралог Беларусі», Беларуская асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсій і іншыя арганізацыі і ўстановы Рэспублікі Беларусь.

**БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАЕ ТАВАРЫСТВА САНКТ-ПЕЦЯРБУРГА.**

# ПАКАЗАЛІ ПРЫКЛАД...

Ці можна быць матэматыкам, не ведаючы табліцы множання? Абсурд, скажаце. І будзеце мець рацыю. А вось культурай, не ведаючы яе асновы — мовы, можна, аказваецца, займацца досыць паспяхова.

У гэтым яшчэ раз пераканала адна з апошніх тэлеперадач «Кроку» (6 лютага). Тэма была вельмі балючая і актуальная: непрадуманая палітыка Вярхоўнага Савета ў адносінах да нацыянальнай культуры, непамернае падаткаабкладанне, якое яе канчаткова загубіць. Аўдыторыя сабралася не абыякая — кіраўнікі творчых саюзаў рэспублікі: архітэктараў, пісьменнікаў, журналістаў, дызайнераў, мастакоў, тэатральных дзеячаў. І словы гучалі нібыта правільныя: родная Беларусь, нацыянальнае адраджэнне, бедная культура... І гаварылася ўсё нібыта з болем. Але ніякай веры ў шчырасць гэтых слоў не было, бо гучала... не беларуская мова! Адзін А. Дудараў годна прадстаўляў аўдыторыю, чым толькі збіваў з панталыку вядучую «Кроку», якая так увайшла ў сваю ролю, што пазней нават з сельскімі дзяўчатамі гаварыла «пагарадскому», і бедалагі вымушаны былі падладжвацца пад «культурнага» сталічнага карэспандэнта.

Нехта з тэлегледачоў не вытрымаў і пазваніў у студыю па прамому тэлефону: «Чаму ж ты, Яроменка, мовы не ведаеш?» Што тут усчалося! Патокі фальшывых слёз, біццё ў грудзі: і родную Беларусь мы любім, і мову сваю паважаем, але не ведаем яе, бо да апошняга часу ў ёй... не было патрэбы. Вось так. Працавалі бедныя дзеячы нацыянальнай культуры, атрымоўвалі ўзнагароды і званні, цярпліва чакаючы, пакуль узнікне патрэба ў аснове культуры, хай сабе на ўзроўні ўласнай сям'і ці зносінаў з калегамі. І вось, нарэшце, дазволілі! Ды, як аказалася, часам лепш валодае моваю просты рабочы люд, чым тыя, каго гэта датычыць у першую чаргу. Як тут не ўспомніць трапныя радкі з неўміручай паэмы «Сказ пра Лысую гару»:

Калі другі артыст народны
Не знаў і двух народных слоў.

...У заключэнне размовы вядучая выказала пажаданне сустракацца па гэтых пытаннях і ў далейшым. Усе горача адгукнуліся на запрашэнне. А я падумаў: лепей бы ўжо гэтыя «дзеячы» не паказваліся на экране і не адкрывалі рота. Няхай людзі прадаўжаюць наіўна верыць, што нацыянальную культуру робяць сапраўды адданыя ёй дзеячы.

А мы яшчэ спадзяёмся на творчую інтэлігенцыю, якая павінна паказаць прыклад у справе нацыянальнага адраджэння...

**Яўген САХУТА,**
**старшыня суполкі ТБМ ІМЭФ Акадэміі навук Беларусі.**

# ВЯРТАННЕ СТАРАЖЫТНЫХ СІМВАЛАЎ

Цікава, вельмі цікава жыць на пераломе гістарычных эпох. Калі ў 1978 годзе я разам са сваім сябрам, архітэктарам Сяргеем Багласавым змясцілі старадаўнюю «Пагоню» над эскізам аднаўлення і рэстаўрацыі Лідскага замка, ніхто з нас не мог нават падумаць, што праз нейкіх няпоўных 15 год яна стане візітнай карткай незалежнай Беларусі. Больш таго, мы былі вельмі засмучаныя, калі пад час друкавання нашага праекта адбудовы Лідскага замка ў архітэктурным часопісе, што выходзіць у Каўнасе, летувіская цэнзура зрэзала выяву «Пагоні» з усіх нашых фотаздымкаў.

А колькі намаганняў трэба было прыкласці, каб вясной 1991 года неўміручы вершнік, што заўсёды бараніў сваю Бацькаўшчыну, з'явіўся на бліскучым ветраніку (флюгеры), што аздобіў стромкі дах першай аднoўленай вежы замка XIV ст. у Лідзе.

Зараз, пасля таго, як нашы старадаўнія герб і сцяг прызналі больш чым 70 краін свету, нельга не сказаць словы падзякі тым мастакам і навукоўцам, што маюць непасрэднае дачыненне да вяртання беларускаму народу яго некалі занядбаных святынь. Паколькі вялізная праца над распрацоўкай эталонаў герба, сцяга і пячатак Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ужо практычна скончана, хацелася б расказаць чытачам «ЛіМа» і «Чырвонай змены», якія пільна і часам даволі крытычна сачылі за гэтай работай, аб асноўных яе ўдзельніках.

Апошнія дзесяцігоддзі наш старажытны герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг цяжка і пакутліва прабіваліся на свет Божы праз завалы невуцтва і нацыянальнага нігілізму. Партапаратчыкі пільна сачылі, каб ні ў літаратуры, ні ў мастацкіх творах, ні ў гістарычных даследаваннях і згадкі не было пра гэтыя спрадвечныя нацыянальныя сімвалы беларусаў. І тым не менш, праўда перамагла. Пытанне аб нацыянальнай сімволіцы, аб сцягу і гербе Рэспублікі Беларусь было ўнесена ў павестку дня вераснёўскай сесіі Вярхоўнага Савета. Напярэдадні гэтай сесіі па ініцыятыве парламенцкай апазіцыі ў фае перад парламенцкай залай Вярхоўнага Савета была разгорнута спецыяльная музейная выстава пад назвай «Герб і Сцяг». За стварэнне выставы ўзяліся мастакі Яўген Кулік, Уладзімір Крукоўскі, Мікола Купава і Аляксей Марачкін. У працэсе работы да іх далучыліся Лявон Бартлаў, Леў Талбузін, Тодар Ладуцька, Ігар Марачкін і Вячаслаў Дубінка. У кароткі тэрмін была выпрацавана канцэпцыя выставы, сабрана некалькі соцень экспанатаў як гістарычнага, так і сучаснага айчыннага і замежнага паходжання. Выстава зрабіла значнае ўражанне на многіх дэпутатаў, станоўча паўплывала на вынікі галасавання. 19 верасня 1991 года «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг былі зацверджаны ўжо ў якасці дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь. Неўзабаве пасля гэтага, 4 кастрычніка 1991 года, Прэзідыум Вярхоўнага Савета стварыў камісію па выпрацоўцы эталонаў дзяржаўнай сімволікі і атрыбутыкі (г. зн. герба, сцяга, пячатак, нагруднага знака і г.д.), а таксама нарматыўных дакументаў да іх. Узначаліць камісію было даручана мне. Камісія склалася з вядомых беларускіх гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, мастакоў, дызайнераў, народных дэпутатаў Беларусі. Сярод навукоўцаў варта адзначыць дактароў гістарычных навук Анатоля Грыцкевіча і Георгія Штыхава, кандыдата гістарычных навук Валянціна Голубева (намеснік старшыні камісіі), кандыдатаў мастацтвазнаўства Тамару Габрусь і Зянона Пазняка, кандыдата юрыдычных навук Марыну Сатоліну, а таксама выдатнага знаўцу беларускай геральдыкі Анатоля Цітова і старшыню камісіі па культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Мінскага гарсавета Ігара Чарняўскага. Адначасова над эскізамі пачала працаваць група мастакоў (Л. Бартлаў, У. Крукоўскі, Я. Кулік, М. Купава, Л. Талбузін), якую курыраваў член камісіі, народны дэпутат Зянон Пазняк, мастацтвазнаўца і гісторык. У працэсе працы каштоўныя парады і кансультацыі аўтары атрымалі ад вядомых беларускіх графікаў Арлена Кашкурэвіча і Уладзіміра Лукашыка, а таксама члена нашай камісіі, архітэктара, народнага дэпутата Лявона Зданевіча. Камісія шчыра дзякуе ім, а таксама ўсім, хто застаўся неабыякавым да нашай працы, выказаў як станоўчыя, так і крытычныя заўвагі. Былі, вядома, і такія лісты, у якіх аўтары сцвярджалі, што «Пагоня»—гэта літоўскі (у сэнсе — летувіскі) герб, а бел-чырвона-белы сцяг прыдумалі фашысты. Такім «змагарам за справядлівасць» быў дадзены адказ 17 студзеня 1992 г. на старонках «ЛіМа» і «Навін Беларускай акадэміі».







Была і другая крытыка, у якой аўтары падвяргалі сумненню асобныя дэталі эталона дзяржаўнага герба. Шмат заўваг было выказана па форме крыжа на шчыце вершніка. Частка чытачоў «ЛіМа» і «Чырвонай змены» чамусьці аднесла самую старажытную выяву хрысціянскага крыжа на Беларусі (давайце ўспомнім крыж Еўфрасінні Полацкай) толькі да праваслаўнай сімволікі, забываючы пры гэтым, што выява патрыяршага крыжа была вядома задоўга да падзелу хрысціянства на католікаў і праваслаўных, і таму невыпадкова шануецца славакамі, якія належаць да каталіцкай канфесіі.

Студэнт гістфака БДУ Уладзімір Вяроўкін нават сцвярджае, што яму не вядома ніводнай выявы «Пагоні» з патрыяршым крыжам. Я параіў бы яму ўважліва прачытаць артыкул Г. Штыхава і Г. Галенчанкі «Пагоня» — сімволіка старажытнага герба» (гл. «Навіны Беларускай акадэміі», 11 кастрычніка 1991 г.). Там, дарэчы, змешчана самая старажытная выява «Пагоні» на надмагіллі Ягайлы, якая і ўзята намі за праобраз сучаснага эталона герба. Вельмі палохае спадара Вяроўкіна і памер шпораў даўжынёй да 40 см. Каб не было так страшна, прапаную яму зірнуць на шпору, што знойдзена мною пад час раскопак у Лідскім замку. Менавіта такая шпора намалявана на нашым гербе. Дарэчы, такую ж даўжыню, аднак з іншым колцам, маюць шпоры вершніка на гербе Летувы.

Шмат каму не падабаецца і выява каня. Як не згадаць тут думку В. Занежанкава (гл. «Чырвоную змену», 27.01. — 2.02.1992), які піша, што «нехлямяжыя беларусы пасадзілі рыцара на калгаснага лашака і кажуць, што гэта наш герб...». Самае цікавае, што нашы «калгасныя лашакі», якія так не падабаюцца некаторым грамадзянам, вядуць радавод менавіта ад рыцарскіх коней, ад тых «грозных коней», пра якіх пісаў Максім Багдановіч. Так, мастакі на нашым гербе намалявалі бургуна-фламанскі тып каня, уласцівы для еўрапейскага рыцарства XIV — першай паловы XVI стст. Дарэчы, менавіта такі конскі тып адлюстраваны на гербе БНР у 1918 годзе.

Пасля таго, як у Еўропе пашырылася вогнестрэльная зброя, рыцары і шляхта пераселі на лёгкіх коней, якія маюць іспанскі радавод, а сваіх баявых сяброў аддалі сялянам. Таму сучасныя конскія пароды першэроны і брабансоны, якія на шчасце захаваліся ў нашых вяскоўцаў, нягледзячы на хрушчоўскую экспрапрыяцыю, паходзяць ад тых баявых коней, на якіх баранілі Беларусь Давыд Гарадзенскі і Канстанцін Астрожскі.

Найбольш слушная заўвага была выказана на старонках «ЛіМа» спадаром Ю. Копцікам («ЛіМ», 31 студзеня 1992 г.), які прапануе ў адпаведнасці з законамі геральдыкі зрабіць шчыт у вершніка чырвонага колеру. Так, большасць вядомых нам гербаў пабудавана менавіта па такім прынцыпе, аднак ёсць і выключэнне. І мы мусілі пайсці на яго, бо чырвоны шчыт на чырвоным фоне разбуральвае колеравую еднасць герба. Гэта адчувалі і нашы продкі, якія, пачынаючы з XVI ст., часам змяшчалі залаты крыж на шчыце сіняга колеру. Гэтым шляхам пайшлі і нашы летувіскія суседзі, якія 4 верасня 1991 г. змянілі эталон свайго дзяржаўнага герба і чырвоны фон шчыта замянілі на сіні. Мы зыходзілі з таго, што ў старажытным апісанні «Пагоні» ўжываліся толькі два колеры: белы конь і вершнік на чырвоным фоне. Пра колер шчыта ў старажытных хроніках нічога не сказана, а тым больш няма ні слова пра сіні фон для шчыта. Таму, каб захаваць гістарычную праўду і колеравую еднасць герба, было вырашана змясціць выяву залатога шасціканцовага крыжа на срэбным (белым) шчыце.

У канцы допіса хачу звярнуцца да Задзіночання беларускіх студэнтаў і маладзёжнай арганізацыі «Выбранецкія шыхты», якія прапануюць наладзіць конкурс на лепшую выяву «Пагоні». Шаноўныя спадары! Зусім нялёгка праходзіла ў нашым Вярхоўным Савеце пытанне аб тым, каб нацыянальную сімволіку зрабіць дзяржаўнай. Успомніце, колькі самых недарэчных праектаў герба прапанавалі ў верасні мінулага года чытачы адной толькі «Звязды». Каб мы наладзілі конкурс ды вынеслі на Вярхоўны Савет некалькі розных варыянтаў, то напэўна апынуліся ў той незайздроснай сітуацыі, якая ўласціва зараз Расіі, што пакуль не мае гістарычнага герба і карыстаецца савецкай сімволікай на сённяшні дзень. Кожны дзень існавання без дзяржаўнага эталона герба прыносіць і значныя фінансавыя страты, бо без выявы герба дзяржава існаваць не можа, а замена старых пячатак, бланкаў, шыльдаў і г. д. абыходзіцца ў значную капейку. Таму раю вам выкарыстаць сваю маладую энергію на канкрэтныя справы.

**Алег ТРУСАЎ,**
**намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, кандыдат гістарычных навук.**

**Марцін КОЎЗКІ**

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Шумяць парламенцкія крыткі, адзін другога крые-мажа, тэатралізацыя палітыкі — інакш пра гэта і не скажаш. Шуміце, любыя-харошыя, калі за гэта плацяць грошы вам, але пра нас не забывайце — рашайце, нешта ўсё ж рашайце...**

●

**Такая пара настала, самотная для п'едэсталаў. Ні пуду ў маладых, ні смеху, ні кветак жывых. Вясельны абрад не зменены, а моладзь не едзе да Леніна.**

●

**Каб не зблытаў нейкі гусь Беларусь з Радзэйяй, утварыла Беларусь Камітэт па геадэзіі. А знайсці нас між прысад можна і без карты — гэта там, дзе шмат пасад для функцыянераў партыі.**

●

**Бегаюць цяпер па нашых скверах колі, таксы, спаніэлі, тойтэр'еры. Кагадзе было яшчэ не так: людзі дзетак мелі, не сабак.**

●

**Мне казаў пенсіянер: я памёр бы хоць цяпер, дык жа для крэмацыі не даюць датацыі. Мае грошы далакоп разглядаў у мікраскоп і сказаў: «За вашы грошы вам не пахаваць і вошы»... Перад смерцю ты адзін, дай зайду ў магазін: «Што вы з вашым пажаданнем, у нас тыдзень пахавання толькі для жанчын, ім і чарка, ім і чын». Так вось усё і бяжыць, мусім, братка, жыць.**

●

**Кансультацыя таварыства аховы прыроды: у якіх клетках лепш за ўсё трымаць птушак.**

●

**Пажадаў народ КПСС апынуцца на Чарнобыльскай АЭС. Меў народ на гэты вырак права, выбухнула партыя-дзяржава. Дзе цяпер КП і дзе СС? Вісне полаг над Чарнобыльскай АЭС.**

●

**На хлебнай ніве: поўняцца зернем нашы засекі ў Злучаных Штатах Амерыкі і Канадзе.**

●

**Каб я быў гісторыкам культуры, я б падбіраў карыкатуры, спісваў у калонах дэманстрантаў з'едлівыя словы транспарантаў, з вечара чакаў бы, калі дзеўкі свежыя спяюць свае прыпеўкі. Трэба часу даць характарыстыку — вось яны, фальклор і публіцыстыка. Хай у прышласці ад нашага дыхання ажывуць даўнейшыя паданні.**

●

**Дыялог. «Цяпер наша надзея на генную інжынерыю». «На гэнную інжынерыю дрэнная надзея».**

●

**— Узнясенне гэта падзенне, — паспеў падумаць той, каго кінуліся гушкаць «на ўра».**

●

**Некаторыя блытаюць індывідуальнае з прыватным, бо з індывідуальнага ў іх ужо адно толькі прыватнае.**

●

**«Прастор-куток», паночкі, пішу цераз злучок. Вунь нерат, а у вочку тчэ сетку павучок. А вунь штурмуе неба няўрымслівы жаўрук, паміж гняздом у хлебе і небам — толькі гук... Прастор прывабна зззяе, а ў ім глухі куток, дык што ж іх падзяляе і што тым больш яднае? Злучок, браток, злучок.**




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА— 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя—26-86-40.**


Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.




Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12